9 студзеня 2015 | № 1 (418)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Нашы сэрцы з «Charlie Hebdo»

стар. 2

**4 У 2015-Ы ГОД З НОВЫМ САЦЫЯЛЬНЫМ КАНТРАКТАМ**

Чакаю гучных і працяглых апладысментаў — нацыянальная ідэя Рэспублікі Беларусь знойдзеная. Гэта — выжыванне



**6 ЯК ГРУЗІНЫ ЎВАСОБІЛІ БЕЛАРУСКУЮ МАРУ**

Аксана Маслак калісьці пераехала ў Тбілісі з Кіева і з сяброўкай адчыніла ў сталіцы Грузіі кавярню-галерэю «Цільда»

**11 ЯК ГАРБАЧОЎ ЗРЫНУЎ ЧАЎШЭСКУ**

25-я гадавіна смерці румынскага дыктатара Чаўшэску папоўніла калекцыю канспіратыўных тэорый румынскай рэвалюцыі 1989 года



**15 ЁН МАРЫЎ ПРА ЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ**

Незадоўга да смерці Язэп Аляксеевіч Канчар прыязджаў на Радзіму, у вёску Сяўкі, дзе у адной з размоваў сказаў: «Эх, а шкада, што Беларусь не стала незалежнай»

# Адарвацца ад канапы!

**Беларусы незадаволеныя ўсім: узроўнем жыцця, перспектывамі і магчымасцямі, і асабліва — уладай. Аднак яны не згодныя адарваць сябе ад канапы, каб нешта змяніць у жыцці**



Сяргей ПУЛЬША

Свежая апытанка Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва) адзначае: беларусы ачомаліся ад «Крымнашу», паглядзелі навокал і, падводзячы вынікі года, жахнуліся. Напрыклад, колькасць тых, у каго матэрыяльнае становішча за апошні час пагоршылася, узрасла на 6%: з 24,6% у верасні да 31% у снежні. Працэнт тых, хто лічыць, што «сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады пагоршыцца», павысіўся больш чым на 10% — з 22,5% у верасні да 33,9% у снежні.

Колькасць тых, хто лічыць, што 2014 год у параўнанні з папярэднім апынуўся для Беларусі цяжэй, узрасла да 45,6%. А 52,3% апытаных, — больш за палову! — лічаць, што эканоміка краіны знаходзіцца ў крызісе.

Варта зазначыць, што апытанне НІСЭПД праводзілася яшчэ да 19 снежня, 30-працэнтнага падатку на валюту і валютнага калапсу. Калі б апытанне праводзілася пасля 19 снежня, колькасць тых, хто лічыць Беларусь «крызіснай» краінай, без сумневу, узрасла б.

Не дзіва, што ў гэтай сітуацыі народ перастае давяраць уладзе. Калі казаць персанальна пра правадыра, то рэйтынг Аляксандра Рыгоравіча знізіўся. У верасні яму давяралі 53,5%, а ў снежні — 49,9%. Галасаваць жа за яго былі гатовыя ў верасні 45,2%, а сёння толькі 40%. Цікава, што аж 10% тых, хто давярае Аляксандру Рыгоравічу, не гатовыя за яго галасаваць! І яшчэ раз давядзецца нагадаць — апытанка праводзілася ў «дакрызісныя» дні.

Людзі не давяраюць не толькі персанальна кіраўніку дзяржавы, а ўсёй створанай ім «вертыкалі ўлады». Больш за 60% апытаных пагадзіліся з заявай ужо былога прэм'ера Міхаіла Мясніковіча, што «галоўная праблема эканомікі Беларусі крыецца ў бездапаможных і безыніцыятыўных кіраўніках, якія без указання зверху нічога не могуць» (не пагадзіліся 32,4%).

Беларусы жадаюць лепшага жыцця. Канешне, паняцце «лепшае» для кожнага сваё. Аднак за апошні год колькасць апытаных, якія лічаць, што ў Беларусі трэба праводзіць рынкавыя рэформы, павялічылася з 59,7% да 63,2%. І, канешне, 51,9% апытаных жадалі б, каб у бліжэйшыя пяць год у краіне адбыліся б «кардынальныя перамены ва ўнутранай і знешняй палітыцы».

Але для такіх пераменаў нашы памяркоўныя і талерантныя беларусы не гатовыя павварушыць і мезенцам. Яны ўсё чакаюць, як той Ямеля ў рускіх казках, што вылезе нейкі шчупак з палонкі, і ўсё зробіць, як яны б жадалі.

Ну вось, напрыклад. У гэтым годзе краіну чакаюць прэзідэнцкія выбары. Згодна апытанцы НІСЭПД, у выпадку, «калі выбары будуць сфальсіфікаваныя», на думку 23,9% рэспандэнтаў апазіцыя павінна заклікаць людзей выйсці на плошчу і арганізоўваць масавыя пратэсты. Між тым, узяць удзел у гэтых пратэстах гатовыя толькі 13,4% апытаных (на 10,5% менш).

Цікава, чые правы парушаюцца фальсіфікацыяй вынікаў галасавання — толькі адной апазіцыі альбо ўсіх? Што будуць рабіць гэтыя 10,5%? Яны будуць сядзець у інтэрнэце, глядзець, як тыя, хто хоць нешта зрабіў, атрымліваюць дручкамі па галаве, і злосна каментаваць: «Ізноў апазіцыя ўсё прафукала!» А астатнія 40% «жадаючых пераменаў» будуць проста жадаць пераменаў, якія, у такім разе, ніколі не надыдуць.




**Галасаваць за Лукашэнку гатовыя 40% беларусаў**

Палітычным партыям зараз давяраюць 16%. Электаральны рэйтынг (па адкрытым пытанні) Уладзіміра Някляева складае 3,5%, Аляксандра Мілінкевіча — 2,8%, Міколы Статкевіча — 2,7%, Анатоля Лябедзькі — 0,8%, Сяргея Калякіна — 0,7%. То бок, нават прагаласаваць за іх насельніцтва не жадае. Адкуль жа ўзяцца апазіцыі, якая «павінна арганізоўваць пратэсты», і «кардынальным переменам ва ўнутранай і знешняй палітыцы»?

НІСЭПД зазначае, што адзінай ініцыятывай апазіцыі, якая знаходзіць падтрымку ў грамадстве, застаецца «Народны рэферэндум». Амаль палова апытаных (48%) згодныя з тым, што «трэба не арганізоўваць масавыя пратэсты пасля выбараў 2015 года, а дамагацца ад уладаў пераменаў у Беларусі праз правядзенне «Народнага рэферэндуму».

Але чаму тады арганізатары «НР» за год набралі пад патрабаваннем аб ягоным правядзенні толькі 75 000 подпісаў? Падтрымка рэферэндуму ў грамадстве таксама ўяўная: на словах падтрымаць можам, а подпіс паставіць — выбачайце!

Для пераменаў трэба адарвацца ад канапы, выйсці з інтэрнэту і пайсці ў рэальнае жыццё. Хоць нешта зрабіць, хоць нечым дапамагчы той жа апазіцыі, тым жа прыхільнікам пераменаў. Без гэтага нічога не будзе. Чароўныя шчупакі скончыліся. Аднак нашае грамадства пакуль проста, па старой кітайскай показцы, сядзіць на беразе рэчкі і чакае, пакуль міма праплыве труп ягонага ворага. І, падаецца мне, калі людзі не падымуцца з гэтага берага рэчкі, яны самі могуць стаць трупам, зваліцца ў гэтую раку і праплысці міма таго, хто ніякіх пераменаў не жадае. Ён таксама сядзіць і чакае недзе: можа быць, на іншым беразе той жа ракі, уніз па цячэнні...

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

### 20 працэнтаў

Амаль на 20% знізілася валютная выручка прадпрыемстваў Беларусі ў лістападзе ў параўнанні з кастрычнікам, сведчаць дадзеныя Нацыянальнага банка.

Скарачэнне валютных паступленняў абумоўлена ў асноўным зніжэннем экспартнай выручкі Беларусі. Значнае зніжэнне валютных паступленняў звязана са скарачэннем валютных паступленняў, якія Беларусь атрымлівае з Расіі.

Гэта зніжэнне — вынік не толькі непісьменнай палітыкі беларускіх уладаў, але і занадта цеснай прывязкі беларускай эканомікі да расійскай.

### 50 долараў

Цэны на нафту маркі «Brent» упалі ніжэй за 50 долараў за барэль. Гэта адбылося ўпершыню з 2009 года. Зараз ф'ючарсы гандлююцца на ўзроўні ледзь вышэй за 50 долараў за барэль.

Аналітыкі тлумачаць, што нафты на рынку занадта шмат. Да гэтага прывялі актыўная здабыча сыравіны ў ЗША, а таксама ў Расіі, дзе ў мінулым годзе быў устаноўлены рэкорд за ўвесь постсавецкі перыяд. Акрамя таго, нядаўна пра намер павялічыць экспарт нафты ў 2015 годзе абвясціў Ірак.

Але не варта спадзявацца на лагічнае ў такім выпадку зніжэнне коштаў на аўтамабільнае паліва ды іншыя энергарэсурсы. У Беларусі, як вядома, кошт на паліва прывязаны да курсу долара.

### 84,9 працэнта

Пасля двухтыднёвага перапынку банкі вярнулі спажывецкія крэдыты, але ці знойдуцца вар'яты, якія возьмуць грошы пад такія працэнты?

Самыя дарагія крэдыты сёння прапануе Банк ВТБ (Беларусь) — пад 84,9% гадавых. Гэта ў два разы даражэй, чым да падзеяў 19 снежня 2014 года. На такіх умовах тут можна пазычыць да 150 мільёнаў на тэрмін ад 13 месяцаў да 5 гадоў.

У Банку «Масква-Мінск» да 50 мільёнаў рублёў можна атрымаць на 2 гады пад 75% гадавых. Пры наяўнасці паручыцеляў банк гатовы пазычыць вялікую суму — ад 50 да 300 мільёнаў — на 3 гады пад 70% гадавых.

Пазыкі да 50 мільёнаў рублёў прапануе «Альфа-Банк». У залежнасці ад тэрміну крэдытавання, працэнтная стаўка розная: на год — 65%, на два — 66%, на тры — 67% гадавых. Пераплаты можна скараціць на 3 працэнтныя пункты. Але для гэтага трэба афарміць страхоўку, кошт якой складзе да 2% ад выдадзенай сумы. Таксама банк спаганяе з кліентаў камісію за «пакет паслуг»: пры суме да 35 мільёнаў — 389 тысяч у месяц, больш — 609 тысяч рублёў.

### 760 млн. долараў

Золатавалютныя рэзервы Беларусі ў адпаведнасці з метадалогіяй Міжнароднага валютнага фонду скараціліся за снежань на $760,8 млн. і, паводле папярэдніх звестак, на 1 студзеня 2015 склалі $5 млрд. 59,15 млн.

Пра гэта сведчаць статыстычныя звесткі Нацыянальнага банка Беларусі. У нацыянальным вызначэнні абём золатавалютных рэзерваў паменшыўся на $ 691,6 млн. і на 1 студзеня, паводле папярэдніх звестак, склаў $ 5 млрд. 716 млн.

Відавочна, што ў любым выпадку такое скарачэнне не пройдзе незаўважаным для эканомікі нашай краіны. Асабліва калі ўлічыць, што ў гэтым годзе нам яшчэ выплачваць значную частку раней набраных крэдытаў і працэнтаў па іх. А тут яшчэ і прэзідэнцкія выбары.

### 30–20–10–0 працэнтаў

Запярэджаннем усіх тэрмінаў, з 8 студзеня падатак пры куплі валюты на Беларускай валютна-фондавай біржы складае 0%, то бок яго больш няма. Адпаведная пастанова Савета міністраў № 5 ад 6 студзеня апублікавана ў ноч на сераду на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Падатак у памеры 30% быў уведзены 20 снежня мінулага года для стабілізацыі сітуацыі на валютным рынку. Эксперты назвалі гэта схаванай дэвальвацыяй. Праз дзевяць дзён ён быў паніжаны да 20%, а 5 студзеня — да 10%. Пры гэтым кожны раз біржавы курс долара павялічваўся на 7 з лішкам працэнтаў, што дазволіла зблізіць афіцыйны і наяўны кацiроўкі.

З грамадзян пры куплі наяўнай валюты, у адпаведнасці з пастановай Нацбанка, спаганяўся камісійны збор у аналагічным памеры.

Першапачаткова меркавалася, што падатак будзе дзейнічаць да 1 лютага, аднак прызначаны 27 снежня новы ўрад і кіраўніцтва Нацбанка вырашылі дзейнічаць хутчэй, бо падатак негатыўна ўплываў на дзейнасць суб'ектаў гаспадарання і дэ-факта ўсталёўваў множнасць курсаў.

# Ахоўнік крамы «777» абразіў НЧ

**Суд над ахоўнікам крамы «777» Дзмітрыем Прохаравым, які назваў «Новы час» «фашысцкай газетай», пачаўся 8 студзеня ў Кастрычніцкім раёне Магілёва.**

Пра гэта паведаміў магілёўскі актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ (КХП-БНФ) Віктар Чараухін. 75-гадовы Віктар Кірылавіч ужо доўгі час з'яўляецца распаўсюднікам НЧ, мае на гэта адпаведную даверанасць. У краме «777» ён таксама пакідаў ахоўнікам газету, але 5 снежня 2014 года ён непаразумеўся з новым ахоўнікам, які выпхаў яго з крамы і прыгразіў, што калі яшчэ раз убачыць яго каля крамы з газетамі, то задушыць яго.

— Гэта быў новы ахоўнік. Ён назваў газету «Новы час» фашысцкай, а мяне БНФаўцам. Схапіў мяне, пачаў душыць. У мяне былі дробныя ранкі, — кажа Віктар Чараухін.

8 снежня актывіст КХП-БНФ выклікаў участковага, якому распавёў пра інцыдэнт, і напісаў адпаведную заяву ў міліцыю. Па выніках апытання ахоўніка крамы інцыдэнт, які меў месца, пацвердзіўся. На ахоўніка склалі пратакол. Ахоўніка крамы «777», якая размешчана на вуліцы Чалюскінцаў у Магілёве, цяпер абвінавачваюць па трох артыкулах, сярод якіх «Хуліганства» і «Абраза».

Падчас першага судовага пасяджэння 42-гадовы Дзмітрый Прохараў сваю віну ў абразе пенсіянера не прызнаў. Пры гэтым неаднаразова называў «Новы час» фашысцкай, нацысцкай і нацыяналістычнай газетай.

Прохараў таксама адмовіўся адказваць на пытанні Чараухіна, зададзеныя па-беларуску.

Суддзя Таццяна Міхайлава прызначыла наступнае пасяджэнне па справе на 12 студзеня, каб паслухаць сведак з боку адказчыка, якія не з'явіліся 8 студзеня.

Рэакцыя НЧ будзе сачыць за справай.

# «Нашы сэрцы з «Charlie Hebdo»

**Журналісты ўсяго свету адрэагавалі на расстрэл тэрарыстамі журналістаў «Charlie Hebdo» ў Парыжы словамі і акцыямі салідарнасці, асуджэннем жудаснага злачынства, здзейсненага пад лозунгамі радыкальных ісламістаў.**




Выразнай дэманстрацыяй гэтай салідарнасці стаўся малюнак, апублікаваны ў газеце «Le Monde»: «Нашы сэрцы з Charlie Hebdo».

Прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд абвясціў 8 студзеня нацыянальным днём жалобы. На працягу трох дзён сцягі будуць прыспушчаныя па ўсёй краіне. Разам з Францыяй смуткуе ўсё прагрэсіўнае чалавецтва.

Нашы сэрцы таксама з «Charlie Hebdo». Мы, журналісты газеты «Новы час», выказваем салідарную падтрымку французскім калегам і смуткуем разам з роднымі і блізкімі журналістаў «Charlie Hebdo», што загінулі ад рук нелюдзяў.

Нагадаем, напад на офіс «Charlie Hebdo» адбыўся 7 студзеня ў 11:30 раніцы па мясцовым часе (13:30 па Мінску). Узброеныя аўтаматамі і гранатамётамі мужчыны зладзілі ў рэдакцыі стральбу. Атака суправаджалася крыкамі «Алах Акбар» і «Мы адпомсцілі за прарока». Ахвярамі нападу сталі 12 чалавек. У іх ліку галоўны рэдактар выдання і некалькі паліцэйскіх. Прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд назваў тое, што адбылося, тэрактам.

Новы нумар французскага сатырычнага штотыднёвіка «Charlie Hebdo» выйдзе ў сераду, 14 студзеня, перадае Agence France-Press са спасылкай на аднаго з выдаўцоў. Як заявіў Патрык Пелу, выхад нумару дазволіць паказаць, што «дурасць не здолела перамагчы». У бліжэйшы час, паводле яго слоў, супрацоўнікі выдання збяруцца на нараду.

**«Новы час»**

# Сайты пацiху разблакоўваюць

**На тэрыторыі Беларусі 6 студзеня стаў даступны сайт «Беларускі партызан» (belaruspartizan.org). У той жа час на інфармацыйны рэсурс udf.by па-ранейшаму можна зайсці толькі праз ананімайзеры або за мяжой, паведамляе БелаПАН.**

Блакіроўка сайтаў незалежных СМІ пачалася 19 снежня мінулага года і ўзмацнілася на наступны дзень, у пік крызісу на валютным рынку. Без тлумачэння прычын быў абмежаваны доступ карыстальнікаў да сайтаў belaruspartisan.org, charter97.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by, а таксама belapan.com, belapan.by, naviny.by, што належаць інфармацыйнай кампаніі БелаПАН. Пасля доступ да большасці сайтаў быў адноўлены, у тым ліку дзякуючы рэдакцыйным тэхнічным службам.

Беларуская асацыяцыя журналістаў запатрабавала ад Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце, Упраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій МУС і Генеральнай пракуратуры правесці праверку з нагоды незаконнага абмежавання доступу да сайтаў шэрагу недзяржаўных СМІ.

1 студзеня пачаў дзейнічаць абноўлены закон аб сродках масавай інфармацыі. Яго дзеянне распаўсюджваецца на інфармацыйныя інтэрнэт-рэсурсы, за выключэннем патрабавання аб дзяржаўнай рэгістрацыі. Папраўкі раскрытыкаваліся з боку незалежнай журналісцкай грамадскасці. Паводле ацэнак прадстаўнікоў БАЖ, абноўлены закон дае ўладам дадатковыя інструменты па абмежаванні доступу да інтэрнэт-СМІ. Прынцыпе папраўкі ў БАЖ звязваюць з прэзідэнцкімі выбарамі, якія павінны прайсці не пазней за 15 лістапада 2015 года. Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч назвала прынятыя папраўкі вялікай пагрозай свабоды слова і масмедыя.

Акрамя таго, як стала вядома 42.TUT.BY, дамен Onliner.by вернуты ў рэестр нацыянальнай даменнай зоны.

Беларуская кампанія ліквідавала ўсе парушэнні ў заканадаўстве аб гандлі, выяўленыя Мінгандлем. У сувязі з гэтым Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце (ААЦ) даў указанне тэхнічнаму адміністратару вярнуць Onliner.by у нацыянальную даменную зону.

Нагадаем, вечарам 20 снежня ААЦ прыняў рашэнне аб выключэнні Onliner.by з рэестра нацыянальнай даменнай зоны за парушэнне заканадаўства аб гандлі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Беларускі серыял

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нашае жыццё — гэта нейкі серыял. Спачатку ўлада сама сабе стварае праблемы, а потым яна іх geраічна, шляхам вялікіх высілкаў, вырашае. Прычым, як правіла, праблемы ствараюць адны, а вырашаюць іх другія.**




Пакуль НЧ быў у калядным адпачынку, мы геpаічна перажылі 30-працэнтны падатак на валюту, змену ўрада і «выроўніванне» сітуацыі ўжо новым кіраўніцтвам Нацбанка. Зараз, калі глядзіш на гэтую сітуацыю, падаецца, што «стары» ўрад проста стаміўся на сваіх пасадах, і зрабіў усё, каб яго вызвалілі ад гэтай пачэснай, але цяжкай працы. Сапраўды, 30-працэнтны падатак на валюту дасягнуў толькі адной мэты — збіў ажыятаж насельніцтва вакол абменнікаў. І тое не да канца: знайшліся тыя, хто сказаў: «Будзе яшчэ горай!» і набываў валюту нават з гэтай, 30-працэнтны надбаўкай.

Шкоды ж гэты крок Нацбанка і ўрада нарабіў нямала. Перад Новым годам, у той час, калі ўсе набываюць падарункі, і народ актыўна расстаецца са сваімі грашыма, усе «імпартаарыентаваныя» фірмы і прадпрыемствы вымушана спынялі працу. Тое ж самае адбывалася і з прадпрымальнікамі: старыя тавары ў іх актыўна раскуплялі, а набыць новыя яны не маглі з прычыны нястачы валюты і гэтага падатку. У крамах бытавой тэхнікі мы заўважылі пустыя паліцы, а як 30-працэнтны падатак перажылі пастаўшчыкі надзвычай запатрабаваных у навагоднюю ноч садавіны і феерверкаў — дагэтуль загадка.

Нялёгка прыйшлося і банкам. 30-працэнтны падатак ішоў у бюджэт. Такім чынам, набывалі яны валюту па 11 100, а прадавалі — па 13 700. То бок адбывалася вымыванне абаротных сродкаў у выглядзе беларускіх рублёў з банкаўскай сферы. Цікава будзе зараз паглядзець банкаўскую статыстыку: наколькі знізіліся іх капіталы і прыбытак за амаль тры тыдні падатку.

Аляксандр Рыгоравіч не змог застацца ўбаку ад гэтай праблемы, і змяніў кіраўніцтва Нацбанка і ўрада. У прынцыпе, пра такі крок ён казаў даўно, і навіной гэта не сталася. Новае кіраўніцтва гэтых структураў хуценька, за працоўны тыдзень, «разруліла» сітуацыю, і зараз ходзіць у героях. Хаця б, здавалася, што тут геpаічнага? Яны ж проста выправілі свае ж памылкі. Але, па жанры мексіканскага серыялу, выпраўленне самімі ж сабою створаных праблем з'яўляецца ўчынкам геpаічным.

Але што зараз здзіўляе, калі паглядзець на сітуацыю з веданнем апошняй статыстыкі і апошніх лічбаў, дык гэта тое, што насамрэч ніякага валютнага крызісу не павінна было быць! Пра гэта сведчаць усе фінансавыя паказчыкі.

Чысты продаж валюты насельніцтвам Беларусі толькі за чатыры дні — з 25 да 29 снежня склаў 52 млн. 900 тысяч долараў. За першыя пяць дзён новага года беларусы здалі яшчэ 35,4 млн. долараў. Золатавалютныя рэзервы Беларусі па міжнародных стандартах на 1 студзеня 2015 года склалі 5,059 млрд. долараў. Гэта на 761 млн. менш, чым у снежні 2014 года, аднак зазначым, што гэта «гадавы» баланс. І не будзем забывацца, што прынамсі каля 250 млн. долараў з гэтай сумы краіна ў снежні ў тым ці іншым выглядзе аддала на замежныя крэдыты (109,4 млн. па крэдыту МВФ, улады «даравалі» цэментным заводам пратэрмінаваны доўг па кітайскіх крэдытах на суму ў 129 млн. долараў і інш.). Адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі Беларусі за студзень—лістапад 2014 года склала 3 млрд. 29,3 млн. долараў. Але гэта лепш, чым у студзені—лістападзе мінулага года — тады сальда было адмоўным у выглядзе 4 млрд. 915 млн. долараў.

Як бачна, сітуацыя ў нас, насамрэч, была не горшая (калі нават не лепшая), чым напрыканцы 2013-га года. Дадамо, што за снежань 2013-га насельніцтва набыло валюты на 1 млрд. 225,4 млн. долараў. Прадало — на 750,1 млн. Такім чынам, чыстая купля валюты склала $475,3 млн. — амаль паўмільярда долараў! І ніякай панікі тады не адбылося.

Выснова тут адна: нехта са сваімі мэтамі стварыў штучны дэфіцыт валюты ў краіне. Нас, як кажуць, у чарговы раз нажухалі. Хто і навошта гэта зрабіў, і якую карысць з гэтага атрымаў, мы даведаемся крыху пазней.

Але не толькі кепскім запомніцца пачатак гэтага года. Напрыклад, з 1 студзеня 2015 года ў Беларусі падвысіўся мінімальны заробак. Ён скокнуў на больш чым 250 тысяч: у кастрычніку МЗП складала 1 млн. 841 тыс. 483 рублі, а зараз, згодна з пастановай Савета Міністраў — 2 млн. 100 тыс. 100 рублёў.

Куды ж мы патрацім такія шалёныя грошы? Ды знойдзем, куды. Напрыклад, паведамляе БелТА, у 2015-м годзе павышаная квота на вытворчасць рому ў Беларусі: у параўнанні з мінулым годам у 1,8 разы — да 23 тыс. дал. Таксама павышаная квота на вытворчасць каньяку — на 7,5% да 492 тыс. дал. Праўда, дазволены да выпуску аб'ём гарэлкі скараціўся з 15 145 тыс. дал да 14 717. А значыць, беларусы ў 2015-м годзе будуць піць больш «шляхетных напояў».

І, магчыма, напачатку года скончыўся яшчэ адзін беларускі серыял: шматгадовы канфлікт грамадскасці і ўсялякіх забудоўшчыкаў вакол урочышча Курапаты пад Мінскам, месца масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Гэтае месца ўрэшце ўнесенае ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі.

Міністэрства культуры Беларусі зацвердзіла праект зон аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці «Месца знішчэння ахвяр палітычных рэпрэсій (1930–1940-я гады) ва ўрочышчы Курапаты (Мінскі раён)». Адпаведная пастанова ведамства ад 1 снежня 2014 года №70 афіцыйна апублікаваная 6 студзеня на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Месца знішчэння ахвяр палітычных рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі і з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю першай катэгорыі.

Неабходнасць такіх мерапрыемстваў «выкліканая сучаснай рэальнасцю для выразнага разумення, якія тэрыторыі не могуць быць выкарыстаны пад будаўніцтва», адзначыў Чарняўскі. У прыватнасці, з боку вуліцы Мірашнічэнкі плануецца будаўніцтва выставачнага цэнтра, неабходна было вызначыць асаблівасці дэталёвага плана зыходзячы з рэгламентаў праекта зон аховы.

Праект зон аховы распрацаваны на аснове гісторыка-архіўных і бібліяграфічных даследаванняў, аналізу горадабудаўнічай сітуацыі і ландшафту, у тым ліку карт 1930–1940-х гадоў і аэрафотаздымкаў. Тэрыторыя гісторыка-культурнай каштоўнасці складае 26,3 га. Устаноўлена таксама ахоўная зона для ўрочышча Курапаты плошчай 37,2 га. На гэтай тэрыторыі забаронена ўсялякае будаўніцтва.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Андрэй Кабякоў

**Новы прэм'ер-міністр Беларусі яшчэ не зацверджаны на гэтай пасадзе парламентам, але, тым не менш, ён ужо агучыў сенсацыйныя планы.**

Адзначым, што ён для ўрада крышачку «не новы». На пасадзе намесніка прэм'ер-міністра Кабякоў адпрацаваў дзесяць гадоў — з 2000 па 2010-ы. Паўтара гады (2002–2003) быў міністрам эканомікі. У канцы снежня 2010 года з урада быў пераведзены ў Адміністрацыю прэзідэнта — намеснікам кіраўніка, затым нядоўга папрацаваў паслом Беларусі ў Расіі (лістапад 2011 — жнівень 2012), адкуль зноў вярнуўся ў Адміністрацыю прэзідэнта, але ўжо кіраўніком гэтага ведамства.

«Мы павінны забяспечыць пастулальнае развіццё беларускай эканомікі, каб жыццёвы ўзровень нашых людзей ні ў якім выпадку не стаў горш, а па магчымасці, з улікам знешніх абставін і нашых дадатковых намаганняў па навядзенні парадку і дысцыпліны, дасягнуць добрых станоўчых вынікаў», — абмаляваў у каментары журналістам пастаўленыя перад ім задачы Кабякоў.

«Заканчваецца чарговы 5-гадовы цыкл сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы. Наша агульная задача — забяспечыць безумоўнае выкананне паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця, прызначаных на чацвёртым Усебеларускім сходзе», — цытуе чыноўніка БелТА.

Цікава, як ён зараз будзе выконваць задачу па забеспячэнні заробку ў тысячу долараў у эквіваленце, пастаўленую на тым Усебеларускім сходзе?



## Мікалай Статкевіч

**АГП пачала фарміраванне ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2015 года Мікалая Статкевіча.**

Паводле слоў лідара АГП Анатоля Лябедзькі, у ініцыятыўную групу ўвайшлі шэраг VIP-персон беларускай апазіцыі і інтэлігенцыі: Станіслаў Багданкевіч, Леў Марголін, Антаніна Кавалёва, Віктар Карняенка, Юрый Хашчавацкі, Гары Паганяйла, Зінаіда Бандарэнка і іншыя.

Лябедзька зазначыў, што гэта, хутчэй, «група салідарнасці з палітвязнем, таму што да збору подпісаў за вылучэнне справа, відаць, не дойдзе». «Але мы спадзяемся, што стварэнне ініцыятыўнай групы наблізіць вызваленне Статкевіча», — дадаў ён.

Мікалай Статкевіч — адзіны кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года, які дагэтуль знаходзіцца ў зняволенні. У маі 2011 года суд Ленінскага раёна Мінска прыгаварыў яго да 6 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачанні ў арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010-га. Зараз палітык адбывае пакаранне ў магілёўскай турме № 4. Яму неаднаразова прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, але Статкевіч катэгарычна адмаўляецца гэта рабіць.

## Дар'я Домрачава

**Трохразовая чэмпіёнка зімовых Алімпійскіх гульняў 2014 года ў Сочы заняла першае месца ў выніку апытання журналістаў Еўропы — членаў Міжнароднай асацыяцыі спартыўнай прэсы (АІПС) ад Еўропы па вызначэнні лепшай спартсменкі гэтага рэгіёна.**



Домрачава стала першай беларускай спартсменкай, якая перамагла ў галасаванні, што праводзілася 32-гі раз, пачынаючы з 1983 года.

«У вызначэнні лепшых спартсменаў прынялі ўдзел журналісты АІПС Еўропа — структурнага падраздзялення Міжнароднай асацыяцыі спартыўнай прэсы. Свае галасы Дар'і таксама аддалі члены Беларускай асацыяцыі спартыўнай прэсы. Ёсць вялікая верагоднасць таго, што цырымонія ўручэння прыза Дар'і Домрачавай адбудзецца ў Мінску восенню 2015 года», — растлумачылі ў НАК.

У мінулым годзе Домрачава заняла 2-е месца ў апытанні журналістаў АІПС, саступіўшы амерыканскай тэнісістцы Серэне Уільямс.

Азбука паліталогіі

# У 2015-ы год з новым сацыяльным кантрактам



Сяргей НІКАЛЮК

**Чакаю гучных і працяглых апладысментаў — нацыянальная ідэя Рэспублікі Беларусь знойдзеная. Гэта — выжыванне. Па формуле: жыццё ў абмен на лаяльнасць.**

У сваім прагнозе на 2013 год аўтар гэтых радкоў трапіў пальцам у неба. Я прадказваў рост негатыўных настрояў у грамадстве ва ўмовах зніжэння тэмпаў росту даходаў насельніцтва. Урад сваё абяцанне выканаў. За студзень-лістапад 2014 года да аналагічнага перыяду 2013-га рэальныя даходы насельніцтва павялічыліся на 1,1%, у той час як годам раней — на 18,1%. Але пры гэтым колькасць беларусаў, якія лічаць, што эканоміка знаходзіцца ў крызісе, знізілася за год з 68% да 52%.

У якасці апраўдання прывяду папулярны сярод эканамістаў анекдот: «Чым навуковы прагноз адрозніваецца ад варажбы на кававай гушчы? Тым, што варажба часам спраўджваецца».

Гэтага апраўдання будзе замала. Таму звярнуся да паняцця «складаныя сістэмы» — гэта сістэмы, чые паводзіны непрадказальныя, хоць паводзіны кожнай падсістэмы прадказаць можна.

Эканамічная падсістэма беларускай мадэлі ў мінулым годзе паводзіла сябе ў поўнай адпаведнасці з маім прагнозам, аднак тое не перашкодзіла мне памыліцца, прагназуючы паводзіны грамадства.

## Згода на прыгожы падман

У студзені 2014-га сярэднестатыстычны беларус сваю зарплату мог абмяняць на 550 баксаў, у ліпені — на 614, у снежні — на 370. Праблема, як няцяжка здагадацца, палягае не ў беларусах. Праблема — у беларускай мадэлі. Без «дапамогі» з боку Расіі тут не абышлося.

Ёсць усе падставы меркаваць, што ў новым годзе аб'ём такой «дапамогі» істотна павялічыцца. Да якога значэння апусціцца заробак у доларавым эквіваленце, прадказаць не бяруся — я не фінансавы аналітык. Але задачы, пастаўленыя адзіным палітыкам (АП) перад прызначанымі на вышэйшыя пасады чыноўнікамі, у 2015 годзе ў поўным аб'ёме выкананыя не будуць. Іх пералік кароткі: «зберагчы мір і парадак у краіне, забяспечыць рост эканомікі і годны ўзровень жыцця людзей».

Праблемы паўстануць і з эканамічнымі задачамі. Верагоднасць росту эканомікі блізкая да нуля. І гэта мякка сказана. Росту ўзроўню жыцця АП не абяцае (уважліва перачытайце цытату). Годны ж узровень жыцця — паняцце адноснае. Пры жаданні які заўгодна ўзровень можа быць абвешчаны такім.

А вось з забеспячэннем міру і парадку асаблівых праблем ва ўлады не павінна ўзнікнуць. Два дзесяцігоддзі беларусы пражылі з адчуваннем, што «заўтра будзе лепш, чым учора». Адчуванне гэта сфармавалася не на пустым месцы. Трэнд на рост рэальных даходаў насельніцтва да 2007 года прасочваецца выразна.

З 2007 года пачынаюцца праблемы. Далёка не пра ўсе насельніцтва здагадваецца. І справа тут не толькі ва ўладзе, якая па зразумелых прычынах імкнулася казаць пра перамогі, а не пра паразы. «Людзі, — сцвярджае гісторык Уладзімір Булдакоў, — пагаджаюцца, каб іх падманвалі, але рабілі гэта, па магчымасці, спрытна і прыгожа, ды ўсяляючы агульную надзею на цуд».

Аднак магчымасць улады ўсяляць надзею на цуд не бясконцая. Як тут не прывесці эпілог папулярнага анекдота: «Каб вылузвацца, крылы трэба мець». Снежань 2014 года нагляднa прадэманстраваў не толькі інтэлігентам у капелюшах, але і масаваму спажыўцу афіцыйнай прапаганды няздольнасць улады і далей падманваць «спрытна і прыгожа».

А калі так, то пазітыўнае адчуванне «заўтра будзе лепш, чым учора» пачне паступова выцясняцца адчуваннем негатыўным. Аднаго года, і нават двух, для поўнага выцяснення, відавочна, не хопіць. Тым не менш, працэс замены выказвання «лепш» на антонім «горш» можна смела ўключаць у шэраг сістэмаўтваральных на 2015-ы год.

## Жыць па сродках

Пяройдзем да любімай цацкі Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) — да сацыяльнага кантракту. У яго аснове, на думку аналітыкаў інстытута, ляжыць «апраўданне абмежавання некаторых свабод захаванасцю грамадзянскага міру і палітычнай стабільнасці».

З такім вызначэннем цяжка пагадзіцца, бо незразумела, дзеля якіх мэтаў на працягу двух дзясяткаў гадоў улада забяспечвала тэмпы росту даходаў насельніцтва вышэй за тэмпы росту вытворчасці працы. Барацьбе за «святую лічбу» (заробак у 500 долараў) у 2010 годзе ў значна большай ступені адпавядаў кантракт «сытасць у абмен на лаяльнасць».

2015-ы год пад ростам матэрыяльнага дабрабыту падвёў рысу. Банкрутства «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця» прымусіла ўладу скасаваць кантракт у аднабаковым парадку. Сваё рашэнне яна не афішавала.

На парадку дня паўстала пытанне аб заключэнні новага кантракту. У гэтым, у першую чаргу, зацікаўлена ўлада, паколькі кантракт дазваляе істотна знізіць цяжар залішніх фінансавых абавязацельстваў улады перад грамадствам і замацаваць мэты і сэнс новага жыцця «па сродках».




Варыянт «патрывайце — усё вернецца», мяркуючы па шматлікіх заявах АП, нават не разглядаецца. За гэта ўладзе варта паставіць пяцёрку з плюсам па пяцібальнай сістэме. Улада не безнадзейная. Яна яшчэ не цалкам страціла сувязь з жыццём і разумее, што рост даходаў насельніцтва назаўсёды адышоў у нябыт.

Застаецца варыянт «жыццё ў абмен на лаяльнасць». АП прэзентаваў яго за некалькі хвілін да бою курантаў у сваім навагоднім звароце: «Гэты год раптоўна і трагічна даказаў нам сапраўдную каштоўнасць міру. Ён паказаў усім нам — любыя жыццёвыя праблемы адыходзяць на задні план, пачынаюць здавацца дробнымі і неістотнымі тады, калі рвуцца снарады, свішчуць кулі і льецца кроў. Няма для чалавека нічога даражэй за жыццё. І няма права больш важнага, чым права на жыццё. Нам трэба разумець і памятаць, на чым грунтуецца сапраўдны мір. І што з'яўляецца галоўнай пагрозай для яго».

Гэта фактычна варыянт Томаса Гобса. Англійскі філосаф XVII стагоддзя апісваў грамадскі дагавор як добраахвотную адмову грамадзян ад часткі сваіх свабодаў на карысць дзяржавы дзеля ўласнай бяспекі. Штосьці падобнае і прапанаваў АП.

## Танны, але эфектыўны

Але пераход да кантракту паводле Томаса Гобса запатрабуе правядзення перагрупоўкі сярод кіруючага класа. Яе сэнс растлумачу з дапамогай паліталага Аляксандра Белавусава: «Для забеспячэння выканання ўмоў дагавора з боку дзяржавы ёй патрэбны асаблівы клас, з якім усталёўваюцца асаблівыя адносіны — вайскоўцы. З імі заключаецца дагавор зусім іншага кшталту: калі простыя людзі ахвяруюць дабрабытам дзеля бяспекі, то вайскоўцы, наадварот, павінны быць гатовыя аддаць сваё жыццё ў абмен на паляпшэнне матэрыяльнага дабрабыту».

Белавусаў — расійскі паліталаг. Ён аналізуе сітуацыю ў Расіі. Што да Беларусі, то, паводле дадзеных газеты «Ведамасці», у рэспубліцы-партызанцы ў 2010 годзе на 100 тысяч жыхароў прыпадала 1442 міліцыянты. Гэта — першае месца ў СНД. На другім месцы — Расія з адставаннем у 500 міліцыянтаў!

Не пакрыўджаныя беларускія сілавікі і матэрыяльна. Калі расходную частку бюджэту ў 2015 годзе запланавана павялічыць на 9,7%, то выдаткі на абарону — на 14,4%, на МУС — на 17,5%, а на КДБ — на 22,4%. Як пасля такой статыстыкі не ўсклікнуць: «Хопіць жартаваць і гуляць у дэмакратыю!»

Увесь 2013 год улада займалася мадэрнізацыяй, прымушаючы суб'екты гаспадарання «маляваць» бізнэс-планы. На шматмільярдныя інвестыцыі прадпрыемствы адказалі рэкордным падзеннем рэнтабельнасці. Таму ў 2014 годзе быў знойдзены танны, але больш эфектыўны, на думку ўлады, спосаб стымулявання эканамічнага росту — узмацненне дысцыпліны.

На выклікі гісторыі палітычная эліта адказвае альбо распрацоўкай інавацыйных ідэй, якія адкрываюць новыя творчыя магчымасці, альбо на аснове вяртання да старых каштоўнасцяў, што апраўдалі сябе ў мінулым. Другі шлях гісторык Аляксандр Ахіезер назваў «архаізацыяй».

Нескладана здагадацца, які шлях абрала спадчынніца савецкай наменклатуры. Як тут не прыгадаць Уладзіміра Высоцкага: *«Кроме мордобития — никаких чудес»*.

Дэкрэт №5 «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый» падымае магчымасці «вертыкалі» здзяйсняць цуды на новы ўзровень. Беларусам да цудаў не прызвычайвацца. Навыкі адаптацыі да рэпрэсіўнай улады ў іх замацаваны на генетычным узроўні. Адсюль мая вера ў здольнасць улады «зберагчы мір і парадак у краіне» ў 2015 годзе. Адсюль мая абыякавасць да маючых адбыцца выбараў.

## Пераяданне не пагражае

Пераход да кантракту «жыццё ў абмен на лаяльнасць» пазбавіць ідэолагаў, занятых пошукам нацыянальнай ідэі, ад галаўнога болю. Рыхтуйцеся апладзіраваць: «Нацыянальная ідэя Рэспублікі Беларусь — гэта выжыванне». Выжыванне пад кіраўніцтвам «моцнай дзяржавы». Попыт на такую дзяржаву ў снежні прад'явілі 56% беларусаў (НІСЭПД).

Нямецкі сацыёлаг Ніклас Луман сілу ўлады вызначыў праз колькасць ступеняў свабоды, якія ўлада можа даць грамадству. Чым больш ступеняў свабоды, тым мацнейшая ўлада. Але што заходнім дэмакратыям добра, тое беларускаму аўтарытарызму — смерць. Нездарма ж АП паўтарае як мантру: «Наеліся дэмакратыі, наеліся дэмакратыі»...

Чым добры мой варыянт нацыянальнай ідэі? Яго рэалізацыя не пагражае грамадству пераяданнем. Немагчыма ўявіць сабе палітыка, які абвінавачвае насельніцтва ў тым, што яно «наелíся выжывання».

У пачатку 1990-х гадоў беларусы выжывалі пры заробку ў 20 долараў, выжывуць і пры 370-ці. Пратэстаў чакаць не даводзіцца. Звернемся да класіку: «Тыя, хто церпіць самую моцную нястачу, становяцца хутчэй апатычнымі, чым актыўнымі, і беспрасветны прыгнёт спараджае вялікае маўчанне пры ўсіх тыранiях. Выбухі адбываюцца, калі ў наяўнасці якія-небудзь нязначныя перамены — іскра надзеі, іскра раздражнення — часцей за ўсё, пры прыкметах слабасці ўладу трымаючых, намёках на палітычную рэформу» (Ральф Дарэндорф, нямецкі паліталаг).

У 2015 годзе ўлада, верагодна, зможа ўтрымаць сама сябе ад намёкаў на рэформы, а пашыраць часавыя рамкі прагнозу я не рашаюся. Занадта высокая верагоднасць патрапіць пальцам у неба.

# Віншаванні трох прэзідэнтаў: што схавана за словамі

Зміцер ГАЛКО

**Упершыню за доўгі час беларусы не сустракалі Новы год асобна «па Маскве». І ў масе сваёй не глядзелі навагодні зварот расійскага прэзідэнта, бо беларускімі тэлеканаламі ён не трансляваўся.**



## Веліч, створаная тэлекамерай

Але ўсё ж трэба ведаць, што там у галаве і на языку ў чалавека, які ў XXI стагоддзі развязаў самую маштабную геапалітычную авантуру ў Еўропе. За «іхны Крым» беларусы ўжо мусяць расплачвацца пахуданнем кашалькоў, а ў недалёкай будучыні могуць стаць яшчэ і аб'ектам вызвалення. Адзін з лозунгаў, пад якім раз'юшаны натоўп будзе штурмаваць абласныя і раённыя адміністрацыі, ужо гатовы: «Вярніце Пуціна ў тэлевізар!».

Пуцін у кадры засланяў сабой добрую палову сімвала расійскай дзяржаўнасці, Крэмль здаецца амаль лялечным на ягоным фоне. Аўтамабільчыкі, у якіх снуюць людзі за ягонай спіной, выглядаюць мурашынымі. Напэўна, менавіта так мог бы выглядаць зварот да насельніцтва правадыра гіганцкіх прышэльцаў, якія захапілі Расію.

Штосьці іншапланетнае было і ў тэксце звароту, безаблічнага, складзенага са штампаў, з яўна парушанай субардынацыяй значнасці падзеяў мінаючага года. Ані слоўца пра міжнародную ізаляцыю і абвал рубля, ані згадкі пра падзеі на Данбасе. Калі ж Пуцін пачаў казаць пра Алімпіяду ў Сочы, спачатку падумалася, што тут нейкая памылка — я ўключыў зварот за іншы год.

Хаця Пуцін не абмінуў тэму анексіі Крыма, падзякаваўшы расіянам за «брацкую падтрымку» ягоных жыхароў, якія «цвёрда вырашылі вярнуцца ў родны дом», усяго два сказы, прысвечаныя ёй, выглядаюць несувымернымі маштабу наступстваў. Словаў для саміх жыхароў паўвострава ў расійскага прэзідэнта не знайшлося. А яны, мабыць, хацелі б пачуць нешта падбадзёрвальнае ва ўмовах транспартнай блакады, перабояў з электразабеспячэннем, зніжэннем турпатоку і аб'ёмаў знешняга гандлю ды іншых непрыемных сюрпрызаў, звязаных з новым статусам.

Зрэшты, падбадзёрвальных словаў не знайшлося і для расіянаў. «Год будзе такім, якім мы самі яго зробім», — філасофскі заўважыў ён. Нібыта забыўшы, хто тут вышэйшы за Крэмль волат, які заварыў усю кашу.

Наіўным было б чакаць ад Пуціна раптоўнага раскаяння, але больш выразныя планы на будучыню — наступленне ці адступленне — мусілі прагучаць. Не, будучыня ў ягоным звароце не праглядаецца. Нават пра сваё любімае дзецішча — Еўразійскі эканамічны саюз, які пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 2015 года, — не згадаў. Чэрчыль калісьці шчыра сказаў брытанцам у 1940 годзе, што яму няма чаго прапанаваць ім, апроч «крыві, поту і слёз». Пуціну ж няма чаго прапанаваць расіянам, апроч сваёй уяўнай велічы, створанай тэлекамерай, і пустых фразаў.

## Віншаванне ў карычневых тонах

У адрозненне ад раздзьмутага да нябёсаў Пуціна, у сваім навагоднім звароце беларускі кіраўнік паменшыўся да «хатніх» памераў. Ён не толькі не стаяў, але і сядзеў не за афіцыйным сталом, а ў вялікім скураным фатэлі карычневага колеру. Карычневы ўвогуле быў дамінуючым колерам у кадры.

«Карычневы колер шануе адчуванне бяспекі... Цярпець не можа, калі што-небудзь парушае звыклы лад жыцця... Аддае перавагу таму, каб рабіць уражанне грунтоўнасці і надзейнасці... Гэты колер можа адчуваць моцны страх перад з'явамі распаду і разбурэння...» — апісвае інтэрнэт-слоўнік па псіхафізіялогіі тых, хто абірае карычневы.

Менавіта такім «карычневым» настроем і быў прасякнуты навагодні зварот Лукашэнкі. Зрабіць уражанне грунтоўнасці і надзейнасці, праўда, не атрымалася. Прэзідэнт выглядаў хмурным і ўстрывожаным. Ён асабліва і не хаваў сваёй трывогі — перад паўтарэннем «украінскага сцэнару» ў Беларусі, дзе яму будзе адведзеная роля Януковіча, зрынутага прэзідэнта-ўцекача. Таму папярэджваў беларусаў пра небяспеку «яркіх і кідкіх лозунгаў», якія прывядуць да «расколу грамадства», «усеагульнай нянавісці», а потым і да вайны.

Гаворцы пра гэтыя вельмі канкрэтныя страхі, свае ўласныя страхі, прэзідэнт надаў выгляд папярэджання і наказу ад умудронага жыццём чалавека неразумным нашчадкам. Нічога, многія праглынулі, нават расчуліліся.

«Аснова сапраўднага міру — гэта дабрыня, памяркоўнасць і згода паміж людзьмі. Гэта гатоўнасць дараваць чужыя памылкі, гэта здольнасць у чымсьці паступацца сваімі інтарэсамі», — прамаўляў Лукашэнка.

Хтосьці сапраўды думае, што гэта ён нас, неразумных, вучыць правілам паводзінаў у побыце? Натуральна, не. Адразу ж за гэтай мудрасцю ідзе пасаж пра кідкія лозунгі, раскол грамадства і вайну, то бок пра галоўны страх прэзідэнта — страту ўлады. Раскол беларускага грамадства, які тоіць у сабе, па словах Лукашэнкі, пагрозу вайны, праходзіць па лініі стаўлення да самога Лукашэнкі. Іншыя лініі расколу не набылі пакуль выразны выгляд. Адпаведна, мір у грамадстве магчымы толькі пры аднолькавым стаўленні да прэзідэнта. Сцісніце зубы і ўпакорцеся. То бок гаворка ідзе пра тое, каб беларусы яму даравалі ягоныя памылкі і адцураліся сваіх інтарэсаў.

«Галоўная каштоўнасць, за якую мы павінны дзякаваць лёсу, — гэта мір... Мы часам, накаракочы на бягучыя цяжкасці, не заўважаем самага важнага, не шануем тыя дары, якія падае нам жыццё...» — прапаведуе Лукашэнка з глыбіні вялікага скуранога фатэля карычневага колеру. Са здымкамі членаў ягонай сям'і поруч — штрых, уласцівы калядным зваротам еўрапейскіх манархаў.

«Нам патрэбны мір, а не свабода», — сказаў Аляксандру Керанскаму летам 1917 года адзін салдат на фронце ў адказ на прамову аб тым, што «шлях да свабоды ляжыць праз пакуты, хто не мае мужнасці перанесці іх, той не варты свабоды». Мы добра ведаем з гісторыі, што адбылося пасля.

Лукашэнка тут выступае адразу ў дзвюх іпастасях, адна з якіх засланяе другую — мужычка з простымі патрэбамі звонку і хцівага бальшавіка, які абяцае мір, прагнучы ўзяць уладу, знутры.

Зрэшты, усё гэта размовы на карысць бедных. Таму што пагроза вайны зыходзіць не ад беларускага грамадства. «Украінскі сцэнар» мае вельмі невялікія шанцы паўтарыцца ў Беларусі. Не беларусаў трэба ўгаворваць не разгойдваць лодку, яны і самі напалоханыя, а пераасэнсоўваць сваю палітыку «глыбокай інтэграцыі», праз якую Беларусь і аказалася ў найглыбейшай небяспецы.

Адсутнасць у прамове згадкі пра Еўразійскі эканамічны саюз і пажаданне «хутчэйшага аднаўлення міру на зямлі нашых братоў», адрасаванае ўкраінцам, даюць маленькую надзею на тое, што такое пераасэнсаванне не выключанае. Каб толькі не аказалася занадта позна. Можам і замерці назаўжды ў субстанцыі колеру прэзідэнцкага фатэлю.

## Знакі перамен ці перамены знакаў

Парашэнка ў якасці прэзідэнта мае занадта кароткую крэдытную гісторыю, каб можна было ацаніць ступень адпаведнасці слова і справы, бачнасці і рэальнасці. Афармленне звароту, відавочна, пакліканае было падкрэсліць, што ён прэзідэнт новага ўзору.

Інаўгурацыю Парашэнкі крытыкавалі за празмерную, як для ваеннага часу, пампезнасць. Крытыку ўлічылі. Чырвоную дарожку, ганаровую варту і нават трыбуну — далоў. Нават надпісу, што зараз будзе віншаванне прэзідэнта, не было. На выбарах перамог упэўнена, давер і падтрымку пакуль не растраціў, маніяй велічы захварэць не паспеў, да багацця звык задоўга да прэзідэнцтва. Чаму б і не?

Але пастаноўшчыкі пайшлі яшчэ далей па шляху выціскання прыкмет значнасці фігуры прэзідэнта з навагодняга віншавання. Спачатку гледачы за навагоднімі сталамі ўбачылі наогул не прэзідэнта, а Сяргея Нігаяна, украінца армянскага паходжання, які першым загінуў на Майдане ад кулі снайпера. Ён адкрыў нарэзку кадраў з падзеямі 2014 года ва Украіне. Пасля Парашэнка з'явіўся ў кадры на фоне людзей — «кібаргаў» і валанцёраў. Здымкі праводзіліся каля Міхайлаўскага сабору — таго самага, дзе знайшлі прытулак пратэстоўцы пасля першага разгону Майдана, пазней тут быў разгорнуты шпіталь для параненых. Пасланне зразумелае: прэзідэнт — частка народа і ягонай гісторыі. Ніяе кульмінацыя і пуп. Прэзідэнцкая ўлада не з'яўляецца самакаштоўнасцю.

Цікава, што ў сваім леташнім звароце Пуцін таксама з'явіўся ў кадры нароўні з людзьмі. Гэта была вымушаная імправізацыя, зробленая на хуткую руку. Але людзі навокал яго цісналіся ў нейкую кучу, з якой выглядалі асобныя твары — або з бессэнсоўным, або з угодлівым выразам. Цэнтрам кадра заўсёды заставаўся Пуцін.

На ўкраінскім прэзідэнце камера надоўга не «заліпала», часта мяняўся ракурс, у цэнтры кадра аказваліся твары іншых людзей, і яны не лыпалі бяздумна вачыма, дарэмна спрабуючы падабраць «патрэбны» выраз. На іх была ўласная спакойная годнасць.

Пра адзінства народа, палітычнай нацыі, не абстрактнае, праверанае ў справе, Парашэнка сказаў простым, зусім не афіцыёзным словам — «не разлі вада». Што дадаткова падкрэсліла сапраўднасць гэтага адзінства.

Сціслая і ёмістая прамова. Дарэчная хвіліна маўчання ў памяць аб загінулых вайскоўцах і мірных жыхарах. Удалае віншаванне з Новым годам на трох мовах — украінскай, крымскататарскай і расійскай. Выразна пазначаная мэта — глыбінныя рэформы, які дазволяць Украіне стаць сябрам ЕС. Надыход Новага года абвясцілі саборныя званы, тыя самыя, якія будзілі калісьці кіяўлянаў, заклікаючы іх на Майдан. Не механічнае адстукванне гадзіннікам адрэзкаў часу, а покліч, які склікае і заахвочвае, павedамляе пра штосьці важнае.

Карацей, усё атрымалася ажно занадта добра. Праўтварэнні ў жыцці Украіны адбываюцца са значна меншай інтэнсіўнасцю, хутчэй з вялікім скрыпам. Ужо цяперашняй уладай зроблена шмат памылак, за якія не зашкодзіла б і павініцца: не ўсё змаглі, не на ўсё хапіла сілаў, часу, умення, жадання, і наогул мы не бязгрэшныя.

Гэтага не было сказана. Таму безумоўна прыгожае і арыгінальнае віншаванне, на жаль, часткова выглядае як пыл у вочы. Дэманстрацыя знакаў перамен, але яшчэ не самі сутнасныя перамены.

TV

## 16 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00 Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія). 3. серыя.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія). 3. серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны баявік «Людзі Ікс: Першы клас» (ЗША- Вялікабрытанія.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.25** «Сёння ўвечары».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Старыя-разбойнікі».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тры акорды».
**23.15** Прэм'ера. «ІльфіПятроў».
**01.05** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Добры дзень, доктар».
**09.35** «Дарагая перадача».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Спяваючыя гарады».
**13.55** Фільм «Не выпускай з нагляду». Францыя-Германія, 1975г.
**15.45** «Татальны распродаж».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Тры метры над узроўнем неба». Іспанія, 2010г.
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**00.15** «Вялікая гульня». Покер.
**01.00** Фільм «Даспехі бога». Югаславія - Ганконг, 1986г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**11.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Выпадковы сведка» (Расія). 3. серыя.
**12.45** Вось дык так!
**13.20** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**14.15** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**16.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.55** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**22.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Выпадковы сведка» (Расія). 4-я серыя.
**23.30** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Эпоха». Максім Багдановіч - паэт, публіцыст, літаратуразнаўца.
**08.50** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.20** «З каханымі не разлучайцеся». Меладрама (СССР, 1979 г.).
**10.35** «Чэхаўскія матывы». Трагікамедыя (Украіна, 2002 г.).
**12.35** «Капітан тайгі. Уладзімір Арсеньеў». Дакументальны фільм з цыклу «Першапраходцы Далёкага Усходу».
**13.25** «Сіла веры».
**13.55** «Аўтограф». Квартэт баяністаў Гомельскага каледжа мастацтваў імя Сакалоўскага.
**14.20** «Размаўляем па-беларуску».
**14.25** «Таямніца Трэцяй планеты». Мультфільм.
**15.10** «Музеі Беларусі». Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Часткі 1-я і 2-я.
**16.10** «Эпоха». Максім Багдановіч - паэт, публіцыст, літаратуразнаўца.
**17.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**17.25** «Размаўляем па-беларуску».
**17.35** «У рэху імені твайго...» Пра жонку Францыска Скарыны Маргарыту Адвернік.
**17.45** «Зімачка». Юбілейны канцэрт, прысвечаны 40-годдзю ансамбля «Харошкі».
**19.25** «Бархан». Крымінальная драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Апошні рэйд». Прыгодніцкі фільм (ЗША, 2003 г.).
**23.10** «Камертон». Рэгент Патрыяршага хору Маскоўскага Данілава манастыра Георгій Сафонаў.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Фактар сілы.
**08.30** Авертайм.
**09.00** Фрыстайл. Чэмпіянат свету.
**11.00** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**11.30** Тэніс. Турнір ВТА. Сіднэй. Фінал. Прамая трансляцыя.
**13.40** Фрыстайл. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**15.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Эстафета. Мужчыны.
**16.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Іспанія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**18.30** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. 1-ы этап. 2-я стадыя. Прамая трансляцыя.
**20.40** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Спрынт. Жанчыны.
**22.05** Гандбол. Чэмпіянат свету. Іспанія - Беларусь.
**23.35** Тэніс. Турнір ВТА. Сіднэй. Фінал.
**01.35** Піт-стоп.
**02.05** Еўрапейскі покерны тур.
**03.00** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Антусевіч і Мікола Пазнякоў.
**07.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.10** Рэпартэр.
**10.35** Відзьмо-невідзьмо.
**11.00** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 4.
**12.00** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**12.55** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Антусевіч і Мікола Пазнякоў.
**13.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.40** Рэпартэр.
**16.05** Відзьмо-невідзьмо.
**16.30** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 4.
**17.30** Невядомая Беларусь: «Кроў на бруку. Горадня 1939 г.», дак. фільм, 2014 г., Польшча.
**18.00** 54 % (публіцыстычная праграма).
**18.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**18.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**18.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Каментар эксперта.
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**19.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Свет.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** «Рэйдары», дак. фільм, 2014 г., Германія–Ізраіль.
**23.55** «Дом», серыял.
**01.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**03.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**03.45** «Рэйдары», дак. фільм, 2014 г., Германія–Ізраіль.

## 17 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Існасць.
**07.25** Меладрама «Шукаю цябе» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**14.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**16.30** Лёс гігантаў.
**17.00** «Трыумф. Героям спорту 2014». Дзённік.
**17.15** Меладрама «Аляксандра» (Расія).
**19.10** Меладрама «Залатыя нябёсы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Лірычная камедыя «Нявеста на заказ» (Расія).
**23.35** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** Прэм'ера. «Юрый Якаўлеў. Апошняя прыстань».
**10.25** «Смак».
**11.10** «Ідэальны рамонт».
**12.15** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** «Ералаш».
**13.20** Прэм'ера. «Максім Дунаеўскі».
**14.20** «Здабытак рэспублікі: Максім Дунаеўскі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыйная меладрама «Каханне на кончыках пальцаў». Францыя, 2012.
**18.25** «Чорна-белае». Заключныя праграмы.
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** «Сёння ўвечары».
**22.45** АНТ прадстаўляе: «Легенды Life». «Сакрэт».
**23.35** Трылер «Омэн».

### ТВ

**06.05** «Студэнты 2». Серыял.
**07.45** Фільм «Тры метры над узроўнем неба». Іспанія, 2010г.
**09.55** «Чыстая работа».
**10.50** «Спяваючыя гарады».
**10.55** «Гэта мой дом».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** «Спяваючыя гарады».
**13.45** «Ваенная таямніца».
**14.45** «NEXT 2». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Спяваючыя гарады».
**16.50** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** «Дзіўная справа».
**18.30** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** Фільм «Тры метры над узроўнем неба». Іспанія, 2012г.
**22.30** «Зорны рынг».
**23.30** Фільм «Даспехі бога 2: Аперацыя» Кондар». Ганконг, 1991г.
**01.20** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Мастацкі фільм «Снежная каралева» (СССР).
**08.15** Толькі для дарослых.
**08.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.15** Беларуская кухня.
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**11.55** Капейка ў капейку.
**12.30** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае шоў (Расія). Выпуск 1-ы.
**13.40** Вось дык так!
**14.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**16.35** Кіпень.
**16.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Беларусь - Славенія. Прамая трансляцыя.
**18.40** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.00** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**22.20** «Сустрэча з ...».
**22.55** Прыгодніцкі баявік «Фантастычная чацвёрка: Уваранне срэбнага серфера» (ЗША).
**00.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Спрынт. Мужчыны.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Бархан». Крымінальная драма (СССР, 1989 г.).
**09.15** «Камертон». Рэгент Патрыяршага хору Маскоўскага Данілава манастыра Георгій Сафонаў.
**09.45** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Беларускі дзяржаўны ансамбль «Песняры».
**10.45** «Прыцягненне Альберта Вейніка». Дакументальны фільм пра легендарнага беларускага вучонага.
**11.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.10** «Дазвольце расказаць!» Аляксандр Саладуха.
**12.20** «Карусель». Меладрама (СССР, 1983 г.).
**13.30** «Пярсцёнак княгіні Ганны». Прыгодніцкі фільм (Польшча, 1971 г.).
**14.55** Прэм'ера. «Музеі Беларусі». Мірскі замак. Часткі 1-я і 2-я.
**15.50** «У адлюстраванні зорак». Канцэрт салістаў Марыінскага тэатра.
**17.20** «Дыя@блог P.S.».
**17.45** «Леапард». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (Італія, Францыя, 1963 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Больш грошай». Крымінальная камедыя (ЗША, 1992 г.).
**22.35** «Застылая музыка Лангбарда». Дакументальны фільм пра славутага архітэктара.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**08.15** Фрыстайл. Чэмпіянат свету.
**10.05** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. 1-ы этап. 2-я стадыя.
**11.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Іспанія - Беларусь.
**13.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Спрынт. Жанчыны.
**14.50** Тэніс. Турнір ВТА. Сіднэй. Фінал.
**16.55** Хакей. КХЛ. Дынама (Мінск) - Віцязь (Маскоўская вобл.) Прамая трансляцыя.
**19.20** Піт-стоп.
**19.55** Фрыстайл. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**21.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Спрынт. Мужчыны.
**22.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Хімкі - Цмокі-Мінск.
**00.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Суёнсі - Чэлсі.
**02.25** Еўрапейскі покерны тур.
**03.20** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**07.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.50** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.35** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**12.25** «Дом», серыял.
**13.45** «Сваё месца», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**14.00** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 4.
**15.00** МакраФон: «Канцэрт гурта "N.R.M."»: ч. 1.
**16.00** «Рэйдары», дак. фільм, 2014 г., Германія–Ізраіль.
**17.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.55** Беларусы ў Польшчы.
**18.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.40** «Час гонару», серыял.
**19.30** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**20.15** Мова нанова: Горад.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Аблічны свабоды», дак. фільм, 2014 г., Літва.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сэксі».
**21.55** Суботні сеанс: «Чаго хочуць жанчыны», камедыя, 2000 г., ЗША.
**00.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.00** Аб'ектыў.
**01.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 18 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Залатыя нябёсы» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Лёс гігантаў.
**17.20** Драма «А снег кружыць ...» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Шукаю цябе» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**00.00** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** АНТ прадстаўляе: шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.45** «Адгадай мелодыю».
**12.25** «На край свету». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Рыхт-у-рыхт». Навагодні выпуск.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Тэатр эстрады».
**23.05** Прыгодніцкі фільм «Жыццё Пі».



### СТВ

**06.30** «Студэнты 2». Серыял.
**07.20** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.50** Фільм «Тры метры над узроўнем неба». Іспанія, 2012г.
**10.00** «Вялікі сняданак».



**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.00** «Спяваючыя гарады».
**14.05** «NEXT 2». Серыял.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Навагодні Задорнаў». Канцэрт.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Спатканне ўсляпую». ЗША, 2005г.
**22.35** «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Фільм «Каханне». Францыя - Аўстрыя - Германія, 2012г.

### Беларусь 2

**06.55** Сямейная камедыя «Капітан Крук» (ЗША).
**09.15** Вышэй за дах.
**09.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**11.00** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.35** «Зразумець і абясшкодзіць».
**12.10** Тэлебарометр.
**12.15** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). Заключныя серыі.
**13.45** Я хачу гэта ўбачыць.
**14.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Масстарт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.20** Іранічны дэтэктыў «Сустрэчная плынь» Расія.
**17.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Масстарт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.25** «Comedy Баттл». Без межаў «. Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**19.30** Суперлато.
**20.20** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). Заключныя серыі.
**22.50** «Перазагрузка». Маладзёжнае токшоў.
**23.35** Баявік «Слёзы сонца» (ЗША).
**01.25** «Сустрэча з ...».

### Беларусь 3

**08.00** «Леапард». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (Італія, Францыя, 1963 г.).
**11.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Юлія Міцько.
**11.40** «Наперад у мінулае».
**12.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.00** «Застылая музыка Лангбарда». Дакументальны фільм пра славутага архітэктара.
**13.40** «Чвэрць стагоддзя на сцэне...» Канцэрт Аляксандра Саладухі.
**14.35** «Прыгоды Тома Соера і Гекльберы Фіна». 1-я - 3-я серыі (СССР, 1981 г.).
**18.00** «Культпрасвет».
**18.30** «Апошні рэйд». Прыгодніцкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Творчы вечар народнага артыста Расіі Аляксандра Міхайлава».
**22.15** «Мужыкі!» Меладрама (СССР, 1981 г.).
**23.50** «Культпрасвет».

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Спрынт. Мужчыны.
**09.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Суёнсі - Чэлсі.
**10.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Беларусь - Славенія.
**12.25** Хакей. КХЛ. Дынама (Мінск) - Віцязь (Маскоўская вобл.).
**14.15** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Хімкі - Цмокі-Мінск.
**15.55** Фрыстайл. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**17.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Масстарт. Жанчыны.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Сіці - Арсенал. Прамая трансляцыя.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Вэст Хэм - Халл Сіці.
**22.45** Біятлон. Этап Кубка свету. Рупольдынг. Масстарт. Мужчыны.
**23.40** Фрыстайл. Чэмпіянат свету.
**01.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.55** ПраСвет.
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.05** «Сваё месца», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.25** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Антусевіч і Мікола Пазнякоў.
**10.15** Рэпартэр.
**10.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Яўхім Карскі.
**11.00** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.35** «Чароўнае дрэва», серыял.
**12.00** Мова нанова: Горад.
**12.20** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.45** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.35** «Глядзі, Літва!», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**14.35** Невядомая Беларусь: «Абліччы свабоды», дак. фільм, 2014 г., Літва.
**15.05** «Чаго хочуць жанчыны», камедыя, 2000 г., ЗША.
**17.10** «Ранча», серыял.
**17.55** «Людскія справы».
**18.30** «Час гонару», серыял.
**19.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Казімір Альхімовіч.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** Дакументальная гадзіна: «10 %, якія робяць героем», дак. фільм, 2013 г., Ізраіль.
**22.05** Кінаклуб: «Провады», драма, 2008 г., Японія.
**00.30** «Рэйдары», дак. фільм, 2014 г., Германія–Ізраіль.
**02.00** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.



# Як Гарбачоў зрынуў Чаўшэску

Алег НОВІКАЎ

**25-я гадавіна смерці румынскага дыктатара Чаўшэску папоўніла калекцыю канспіратыўных тэорый румынскай рэвалюцыі 1989 года.**

Афіцыйная версія падзей снежня 1989 года ў Румыніі, напэўна, больш-менш знаёмая кожнаму. Рэжым Чаўшэску быў зрынуты ў выніку рэвалюцыі, непасрэдным пралогам якой былі хваляванні венгерскай грамады ў горадзе Цімішаара, што пачаліся 16 снежня. На 21 снежня ў Бухарэсце быў прызначаны праўладны мітынг, які нечакана перарос у беспарадкі і захопы міністэрстваў. Натоўп, які падтрымалі сілавікі, раз'юшылі перш за ўсё стрэлы невядомых снайпераў з дахаў урадавых будынкаў. Чаўшэску ўдалося збегчы са сталіцы, аднак у выніку ён быў захоплены жаўнерамі, і разам са сваёй жонкай Аленай паўстаў перад трыбуналам. На судзе яму былі прад'яўленыя абвінавачванні ў злачынствах супраць дзяржавы, генацыдзе ўласнага народа, адкрыцці таемных рахункаў у замежных банках і «падрыве нацыянальнай эканомікі». Чаўшэску былі расстраляны 25 снежня 1989-га, праз некалькі гадзін пасля суда.

Аднак афіцыйная версія мае свае нестыкоўкі. Перш за ўсё, незразумела, хто і паводле якой інструкцыі страляў па натоўпу 21 снежня. Не дзіўна, што яшчэ ў снежні 1989-га пайшла гуляць легенда пра тое, што снайперамі былі палесцінскія тэрарысты. Да таго ж, нашто было спяшацца з судом над Чаўшэску і пасля так хутка выконваць вердыкт? Аўтаматычна нараджаецца думка, што гэта магла быць нейкая пастаноўка, рэжысёры якой праследавалі мэту расправіцца з Нікалае Чаўшэску як мага хутчэй, каб пасля не ўсплылі некаторыя непажаданыя факты.

Усё гэта вельмі хутка заклала глебу для цэлага комплексу канспіратыўных тэорый. Самая папулярная з іх — замест Чаўшэску на Каляды 1989-га расстралялі яго двайніка (у мэтах бяспекі спецслужбы трымалі шэраг падобных на Чаўшэску асобаў). Праўдападобнасці такой версіі дадавалі інтэрв'ю некаторых родных Чаўшэску. Тыя кляліся, што на здымках пакарання Чаўшэску выяўлены не іх родны. 5 гадоў таму, каб развеяць міфы, целы Нікалае і Елены нават эксгумавалі.

Аднак гэта не паўплывала на трэнды. Сваю ролю ў стварэнні міфу пра чароўнае ўратаванне Нікалае рэгулярна робіць і жоўтая прэса. Так, на пачатку нашага стагоддзя ў прэсе з'явіліся выявы Ніку Чаўшэску — сына дыктатара, які лічыўся забітым у часы рэвалюцыі. На выявах «нябожчык» спакойна шпацыруе па вуліцах Вены. Адразу пачалі казаць, што сын дыктара жыве ў Аўстрыі разам з бацькам. Пасля смакавалі сенсацыю пра тое, што адзін з катаў Чаўшэску быў яго тайным прыхільнікам, які, быццам, падсунуў паўстанцам замест куміра нейкага бамжа, якога і паставілі да сценкі.

Інкубатарам падобных міфаў была, безумоўна, сацыяльна-эканамічная атмасфера ў Румыніі. Цяжкасці трансфармацыі адрадзілі ў шматлікіх румынаў настальгію па «залатым часе» — так у часы сацыялістычнай Румыніі называлася эпоха кіравання Чаўшэску.

Натуральна, фанаты канспіратыўных тэорый не маглі прайсці міма нядаўняга 25-гадовага юбілею перавароту. Напярэдадні ў прэсе з'явіліся новыя невядомыя падрабязнасці снежаньскіх падзей 1989-га, якія, калі верыць іх аўтарам, патрабуюць татальнай рэвізіі поглядаў на тыя працэсы.



**Рэвалюцыі ў Румыніі папярэднічала разборка паміж Гарбачовым і Чаўшэску, які не жадаў падтрымліваць гарбачоўскую праграму перабудовы. У дадатак Румынія ператваралася ў базу для незадаволеных гарбачоўскім курсам**

Найбольш вялікі інтарэс і шмат каментараў выклікала тэорыя пра тое, што за румынскай рэвалюцыяй стаяў СССР. Галоўным рэчавым доказам тут служаць апублікаваныя ў жніўні мінулага года нататкі аднаго з сілавікоў, набліжаных да Чаўшэску. 17 снежня на сустрэчы з імі Чаўшэску забараніў пускаць у краіну турыстаў з СССР і іншых краін т. зв. савецкага блоку. Прычынай стала іх падазрона вялікая колькасць (на той час у Румыніі нечакана высадзіўся 30-тысячны дэсант «рускіх турыстаў»). Акрамя таго, Чаўшэску, быццам, праінфармавалі, што некаторыя тыя турысты былі заўважаныя падчас хваляванняў венграў у Цімішаары. Адначасова на тым жа пасяджэнні 17 снежня перапужаны Чаўшэску, быццам, запрасіў у Румынію спецназ з саюзных яму Лівіі і Ірану.

Гэты пазл з пасяджэннем Чаўшэску і сілавікоў, сапраўдны, цудоўна кладзецца ў версію пра савецкі след у румынскай рэвалюцыі, якая была ўпершыню агучана яшчэ ў 2012 годзе ў французскім часопісе «Le Point». Такім чынам, рэвалюцыі ў Румыніі папярэднічала разборка паміж Гарбачовым і Чаўшэску, які не жадаў падтрымліваць гарбачоўскую праграму перабудовы. У дадатак Румынія як сябра Варшаўскай дамовы і Савету ўзаемнай дапамогі ператваралася ў базу для незадаволеных гарбачоўскім курсам. Кансерватары, напрыклад, віталі выступ Чаўшэску ў 1988 годзе на візіт Андрэя Грамыкі, якога румынскі кіраўнік абвінавачваў у правым рэвізіянізме. У Крамлі таксама баяліся, што асабістая нелюбоў Чаўшэску да Венгрыі можа набыць нейкія маргінальныя формы. У тым жа 1988 годзе Чаўшэску, як бы звяртаючыся на адрас Будапешта, паабяцаў стварыць атамную бомбу.

Сякера вайны, праўда, была выкапаная раней, пасля скандальнага туру Гарбачова ў Румынію ў 1987 годзе. Выступ Міхаіла Сяргеевіча перад функцыянерамі румынскай кампартыі быў сарваны за кошт таго, што аўдыторыя ўвесь час апладзіравала госцю (на самай справе, гэта быў трук Чаўшэску).

У адказ Горбі загадаў КДБ разабрацца з Нікалае, што, быццам, і зрабілі чэкісты. Некаторыя гісторыкі знаходзяць гарбачоўскі след, аналізуючы курс Іона Іліеску — намесніка Чаўшэску, які ўзначаліў краіну пасля рэвалюцыі. Калі ў 1992 годзе на Днястры пачаўся канфлікт, Румынія адмовілася дапамагаць Малдове, і Прыднястроўе хутка перайшло пад кантроль прарасійскіх сепаратыстаў. Ёсць думка, што нейтралітэт Бухарэста быў абумоўлены тайнай дамовай Масквы і Іліеску, на якога чэкісты зрабілі стаўку пры падрыхтоўцы перавароту. Сапраўды, дасюль мала зразумела, чаму з усіх цэнтраў апазіцыі, якія існавалі падчас рэвалюцыі ў Румыніі, нечакана на сцэну выйшаў і распіярыўся Фронт нацыянальнага выратавання, што заснаваў Іліеску (дарэчы, ён разам з Гарбачовым вучыўся ў МГУ).

Вось такая тэорыя. Натуральна, яна не больш пераканаўчая за версіі, якія намагаецца абвергнуць. Крытыкі ідэі пра гарбачоўскі след указваюць на тое, што савецка-румынскія адносіны ў 1989 годзе, наадварот, палепшыліся. Абмяркоўваўся шэраг буйных індустрыяльных праектаў у тым ліку з удзелам Венгрыі. І ўвогуле цяжка ўявіць сябе Міхаіла Гарбачова ў іпастасі арганізатара перавароту, асабліва з улікам таго, як ён празяваў путч у жніўні 1991-га. Таму тэорыю пра руку Гарбачова можна пакінуць у катэгорыі гістарычных міфаў. Аднак гэта не значыць, што з румынскай рэвалюцыяй усё зразумела.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Адбылося прыкметнае паслабленне беларускага рубля, што пагражае рэжыму Аляксандра Лукашэнкі самымі сур'ёзнымі наступствамі. Адпаведна, зробленыя ім заявы адносна пераходу ва ўзаемаразліках на долары і еўра з Расіяй фактычна перакрэслілі значнасць саюза з Расіяй і прадэманстравалі адсутнасць рэальнага напаўнення існуючых «папяровых» інтэграцыйных праектаў. Такая сітуацыя паказала прыкметную слабасць планаў Крамля адносна «збірання» тэрыторый, якія адпалі ад Масквы ў 1991 годзе, і зніжэнне іх прывабнасці для суседзяў Масквы.

**«Аргументы і факты» (Расія)**

1 студзеня 2015 года дамова аб Еўразійскім саюзе — у складзе Расіі, Беларусі і Казахстана — афіцыйна ўступіла ў сілу. Але эканамічны раён, у якім пражываюць 170 мільёнаў чалавек, ужо даўно не быў такі слабы. Паколькі Расія, якая дамінуе ў Еўразійскім саюзе з 84 працэнтамі насельніцтва і амаль 90 працэнтамі валавога ўнутранага прадукту, перажывае найгоршы эканамічны крызіс за многія гады і знаходзіцца на пачатковым этапе рэцэсіі. Вельмі аўтарытарныя характары прэзідэнтаў з'яўляюцца адной з прычын, чаму альянс не мае высокай эканамічнай і палітычнай значнасці. Так, улада Масквы рэдка дастае да сталіцы Казахстана Астаны. З беларускім калегам Аляксандрам Лукашэнкам у кіраўніка Крамля не самыя цёплыя адносіны.

**«Der Welt» (Германія)**

Дынаміку ў рэгіёне Лукашэнка імкнецца выкарыстоўваць аж да таго, што Мінск стаў сталіцай дыпламатыі перамір'я. Але гэтыя дзеянні нагадваюць адчай чалавека, які сядзіць «на ігле» і разумее, што доза будзе змяншацца. Бо ў Крамля цяпер эканамічны крызіс, вайна ва Усходняй Украіне, трэба ўтрымліваць Крым, а ёсць яшчэ Прыднястроўе, Абхазія, Асеція, ужо не кажучы аб рэжыме ў Чачні... Ну вось ён і запрашае калег з Еўропы, пасылае розныя дэлегацыі ў суседнія краіны, імкнучыся знайсці дадатковыя рэсурсы і імітуючы, што з «іголкай Крамля» ўжо дакладна завязаў. У далейшых адносінах Беларусі з Захадам шмат што будзе вызначаць тое, як пройдуць прэзідэнцкія выбары ў 2015 годзе. Калі яны пройдуць дэмакратычна, без фальсіфікацый-арыштаў-збіцця, можна прагназаваць пацяпленне адносін. Аднак спадзявацца на гэта, вядома, не атрымліваецца.

**«Delfi» (Літва)**

У Беларусі восенню 2015 года пройдуць выбары прэзідэнта. Для Расіі, натуральна, будзе лепш захаванне статус-кво на палітычнай мапе Беларусі, паколькі, нягледзячы на ўсю ўяўную праблемнасць і капрызнасць цяперашняга лідара суседняй краіны, ён усё ж забяспечвае так неабходны для нацыянальнай бяспекі нашай краіны стратэгічны прыярытэт усходняга вектара знешняй палітыкі і, у адрозненне ад апазіцыйных палітычных сілаў, не імкнецца пераарыентаваць Мінск на Еўропу, каб дагадзіць геапалітычнай гульні Захаду супраць Расіі.

**«Эксперт» (Расія)**

Наўрад ці ён (Лукашэнка) не разумее, што і сама Беларусь, і яго рэжым у Беларусі могуць існаваць толькі пад расійскім парасонам, а без яго ні сам Лукашэнка, ні русафобскае, нацыяналістычнае, еўраатлантычнае беларускае літвінства, якое клапатліва гадуецца ім (у якасці хатняй ручной процівагі інтэграцыйным працэсам) нікому не патрэбныя. Калі Захад зваліць Лукашэнку, то «літвінаў» утылізуюць па той жа схеме, па якой ператвараюцца ў «загінуўшых герояў» іх украінскія калегі з карных батальёнаў. І ўсё ж Лукашэнка з ростам расійскай моцы ўсё больш турбуецца аб суверэннасці роднага хутара, пачынаючы ўжо паўтараць тэзісы і памылкі сваіх украінскіх экс-калегаў.

**«Однако» (Расія)**

9 студзеня 2015 | № 1 (418) Новы час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ХАРВАТЫЯ. Анархіст — трэці

У другі тур прэзідэнцкіх выбараў у Харватыі (адбудзецца 11 студзеня) выйшлі цяперашні гарант Іва Ёсіпавіч (Ivo Josipović) і прадстаўнік ліберальнай апазіцыі Колінда Грабар-Кітаравіч (Kolindą Grabar-Kitarović). Між тым, значна больш інтарэс на Захадзе выклікаў вынік уладальніка трэцяга месца. Па выніках першага туру з 16 працэнтамі галасоў падтрымкі трэцім прыйшоў 24-гадовы Іван Сінчыч (Ivan Sinčić). Фішка ў тым, што Сінчыч ішоў на выбары ад руху мясцовых анархістаў, хаця адкрыта гэта не афішаваў. Нягледзячы на малады ўзрост, анархіст спадабаўся частцы электарату. Палітолагі тлумачаць поспех Івана яго радыкальнай пазіцыяй па вельмі актуальнай у краіне праблеме даўжнікоў за паслугі ЖКГ. Іван выступаў супраць высялення з дамоў тых, хто не ў стане плаціць за камунальныя паслугі. Таксама прадстаўнік анархістаў патрабаваў выхаду Харватыі з NATO і Еўрасаюзу, правядзення люстрацыі і прыняцця новай Канстытуцыі. Добры вынік маладога палітыка, на думку палітолагаў, дае яму някепскія шансы на праходжанне ў парламент на бліжэйшых выбарах.

**Паводле польскай і харвацкай прэсы**

### РАСІЯ. Зімовы час вярнулі з-за Майдану

Аўтарытэтная расійская «Независимая газета» сцвярджае, што вяртанне зімовага часу ў Расіі было выклікана палітычнымі матывамі. Перш за ўсё ініцыятары былі зацікаўленыя ў тым, каб расіяне як мага больш часу знаходзіліся пад уплывам прапаганды, асноўны інструмент якой — тэлебачанне. Дабіцца таго, каб расійскі грамадзянін як мага больш часу сядзеў перад экранам, было вырашана за кошт пераводу гадзіннікаў, у выніку чаго цямнее цяпер у Расіі вельмі рана. «Сацыяльна-палітычная каштоўнасць ранніх «зімовых» вечароў раскрываецца толькі цяпер. Дзякуючы адсунутай назад гадзіне змяркание пачынаецца, калі большасць расіян працягваюць несці працоўную вахту. Калі ж працоўны дзень у расійскіх рэгіёнах нарэшце заканчваецца, то ніякіх сумневаў, што рабіць далей, ужо не застаецца. Не швэндацца ж у цемры па вуліцах. А дома ўсіх чакае да болю знаёмы тэлевізар з кактэйлем з як бы навін і палітычных ток-шоў, дзе зноў раскажуць пра тое, што сябро у Расіі, за выключэннем яе арміі і флоту, па-ранейшаму няма, што NATO і бандэраўцы зноў каля брамы, а Крэмль, як заўсёды, на варце», — піша выданне. Праўда, ніякіх заклікаў перавесці гадзіннік, як было раней, выданне не агучвае.

**Паводле расійскай прэсы**

### Францыя. Калі будзе кіраваць партыя мусульман?

Вялікі скандал выклікала новая кніжка папулярнага французскага пісьменніка Мішэля Уэльбека (Michel Houellebecq) — аднаго з самых чытэльных у свеце французскіх аўтараў. Яшчэ напярэдадні яе прэзентацыі 7 студзеня стаў вядомы сюжэт новага твора. Герой рамана Мухамед Бен Абе, які займае пасаду прэзідэнта Францыі ў 2022 годзе, з'яўляецца лідарам Партыі мусульман. Правыя партыі яшчэ да прэзентацыі пачалі завочна піярыць твор Уэльбека. Так, Марын Ле Пэн, лідар Нацыянальнага Фронту, кажа, што «літаратурная фікцыя можа ператварыцца ў рэальнасць». Зацікавіўся творам і прэзідэнт сацыялістаў Франсуа Аланд, які збіраецца прачытаць кнігу, паколькі яна «ўплывае на дэбаты». А вось левыя кажуць, што падобныя фэнтэзі сеюць у грамадстве падазрэнне і нянавісць. Нацыянальны сакратар Партыі Левых, каментуючы выхад кнігі Уэльбека, заклікаў французаў памятаць, што абсалютная большасць мусульманскіх вернікаў у Францыі паважае свецкі характар дзяржавы.

**Паводле французскай прэсы**

### МАНГОЛІЯ. Спрэчкі з-за Чынгізхана

У Манголіі вельмі раўніва ўспрынялі візіт прамога 29-га нашчадка Чынгізхана, мангольскага рэзідэнта, Пурэва Даваанямa ў Казахстан. Раней ён заснаваў акадэмію Чынгізхана, якая прапагандуе філасофію вялікага палкаводца. Праўда, самі мангольскія спецыялісты ў гэтай сферы лічаць Пурэва прайдзісветам. Аднак яго паездка ў Астану выклікала ў Манголіі вялікі рэзананс. Справа ў тым, што казахі даўно намагаюцца давесці, што менавіта яны з'яўляюцца нашчадкамі Чынгізхана. Калі верыць казахскім гісторыкам, сваім перамогам Чынгізхан абавязаны туркам, якія далучыліся да манголаў у іх паходах. Запрашэнне хай і дзіўнага, аднак сапраўднага нашчадка Чынгізхана можа ўзмацніць пазіцыі казахаў у барацьбе за спадчыну Чынгізхана. Пурэва ў Казахстане сапраўды сустрэлі на вышэйшым узроўні — узнагародзілі ордэнам і паабяцалі дапамагчы арганізаваць вывучэнне філасофіі Чынгізхана. Праўда, мангольскі госць мяжу не перайшоў, заявіўшы, што Чынгізхан не належыць ні манголам, ні казахам, а ўсім народам свету.

**Паводле мангольскай прэсы**

# Садружнасць дэвальвацый

Алег НОВІКАЎ

**Беларусаў — ахвяраў нядаўняй дэвальвацыі, магчыма, супакоіць тое, што ў снежні з падобнымі фінансавымі праблемамі сутыкнуліся грамадзяне практычна кожнай краіны СНД.**



Безумоўна, асноўны фактар нестабільнасці фінансавых сістэмаў дзяржаў былога СССР — дэвальвацыя рубля ў Расіі, які за восень абясцэніўся больш чым на сто працэнтаў. Апагеем драмы стаў «чорны аўторак» 16 снежня, калі долар у Маскве перавысіў 80 рублёў. Адначасова вырасла і напружанасць на фінансавых рынках у суседніх краінах. Там-сям усё гэта вылілася ў знаёмы сцэнар, калі рост попыту на валюту прыводзіў да ажыятажу і, як следства, выклікаў неабходнасць дэвальвацыі. Праўда, гэта не агульнае правіла.

Самае незвычайнае, што катастрофы пазбеглі казахі, чыя эканоміка вельмі завязаная на расійскую. У Казахстане сітуацыя дасюль чымсьці нагадвае беларускія рэаліі месячнай даўніны, калі жыхары Беларусі рабілі набегі на крамы ў РФ, дзе з-за і дэвальвацыі рубля набываць штосьці стала танней амаль у два разы. Наплыў пакупнікоў з Казахстану на працягу снежня адзначалі ў буйных гандлёвых сетках і дылерскіх аўтацэнтрах Расіі. Жоўтая прэса нават піша пра засады, якія руская мафія рабіла на трасах з мэтай рабавання багатых казахскіх турыстаў. Праўда, бум шопінг-тураў у Расію зафіксаваны толькі ў суседнім з Расіяй Паўночным Казахстане. У іншых рэгіёнах вотчыны Назарбаева пануе поўны штыль. Устойлівасць казахскай валюты эканамісты звязваюць са штучнай дэвальвацыяй, якая мела месца ў лютым мінулага года. Курс долара тады ўзняўся на 20 працэнтаў — з 150 да 185 тэнге — і застаецца прыкладна такім жа і зараз. Аднак у сваіх дыскусіях мясцовыя эканамісты не выпраменьваюць аптымізм. Будучая стагнацыя расійскай эканомікі негатыўна паўплывае на паказнікі казахскай вытворчасці. Называецца нават лічба — 300. Быццам, да такіх памераў можа абваліцца тэнге ўжо ў гэтым годзе.

Казахстан, падаецца, адзіная краіна Сярэдняй Азіі, дзе заклапочаныя расійскай дэвальвацыяй. У іншых краінах рэгіёну (за выключэннем хіба Кіргізіі) тэма дэвальвацыі адсутнічае ў топе актуальных для грамадства падзей. Гэта можна патлумачыць больш слабымі эканамічнымі кантактамі з Расіяй, нізкімі жыццёвымі стандартамі мясцовых жыхароў, якія не інвеставалі ў валюту, і, натуральна, аўтарытарным характарам палітычных

**Казахстан ледзь не адзіная краіна Сярэдняй Азіі, дзе заклапочаныя расійскай дэвальвацыяй. У іншых краінах рэгіёну тэма дэвальвацыі адсутнічае ў топе актуальных для грамадства**

рэжымаў. Так, ва ўзбекаў вельмі жорсткі кантроль на ўнутраным валютным рынку: улады цалкам забаранілі рух валюты ўнутры краіны.

Што тычыцца Малдовы, то дэвальвацыя расійскага рубля перш за ўсё мела палітычныя наступствы. Ідзе працэс фармавання ўраду, які павінен працягнуць працэс інтэграцыі краіны ў ЕС. Зводкі з расійскіх біржавых пляцовак пазітыўна паўплывалі на рэйтынгі праеўрапейскіх партый. А вось мясцоваму лею крызіс у Расіі не спадабаўся. За апошнюю дэкаду мінулага года курс малдоўскай валюты знізіўся з 15 да 20 леяў за 1 долар (гэта, дарэчы, гістарычны рэкорд). Тутэйшыя эканамісты кажуць, што больш страшна тое, што дэвальвацыя расійскага рубля вядзе да памяншэння памеру грашовых пераводаў на радзіму ад малдаўскіх гастарбайтэраў у Расіі. Яшчэ апакаліпсіс, падаецца, пагражае суседняму Прыднястроўю, чыя гаспадарка моцна залежыць ад заказаў з Расіі.

Балюча адбілася дэвальвацыя расійскага рубля і на армянскім драме. Па паведамленнях СМІ Арменіі, у канцы мінулага тыдня ў банках практычна немагчыма было купіць долары і еўра. Курс продажу складаў 590 драмаў за 1 долар, а куплі — 560 драмаў, хаця да пачатку дэвальвацыі долар каштаваў каля 410 драмаў. Справа дайшла да таго, што ў парламенце прайшло пазачарговае пасяджэнне за зачыненымі дзвярыма, прысвечанае падзенню армянскага драма.

А вось грузінскі лары з-за таго, што экспарт у Расію пасля гандлёвых войнаў значна зменшыўся, вытрымаў удар. Курс нацыянальнай грузінскай валюты ў снежні знізіўся ўсяго з 1,74 да 1,87 лары за долар. Аднак не выключана, што дэвальвацыя расійскага рубля будзе мець уплыў на Грузію ў доўгатэрміновай перспектыве. Як і ў выпадку з Малдовай, грузінскія працоўныя мігранты ў Расіі могуць рабіць грашовыя трансферы не так часта, што паўплывае на спажывецкі попыт грузін і пацягне крызісныя з'явы ў бізнесе.

Парадаксальна, аднак пакуль годна трымаецца азербайджанскі манат (Азербайджан — адзін з вядучых экспарцёраў нафты, цана якой імкліва змяншаецца). Банкі ў краіне працуюць у штатным рэжыме, у абменніках чэргаў няма. Аднак прагноз экспертаў суровы: нізкія цэны на нафту — гэта надоўга, так што эканамічныя перспектывы ўсіх нафтаздабываючых краін, уключаючы Азербайджан, даволі нявесёлыя. Больш за два гады пры такіх коштах на нафту цяперашні курс маната не ўтрымаць.

Паўплывалі расійскі «дэвальвец» і на ўкраінскую грыўну, хаця грамадскасць вітала фінансава-эканамічныя праблемы суседзяў (Расія, як вядома, мае непасрэднае дачыненне да вайны на ўкраінскім усходзе). Напрыклад, кіраўнік Нацбанку Валерыя Гонтарава кажа: «Як чалавек, напэўна, я вельмі радуюся, што адбываецца з расійскім рублём. Але як кіраўніка Нацбанку мяне гэта не можа радаваць, таму што Расія застаецца адным з нашых буйных партнёраў. Такім чынам, гэтая дэвальвацыя рубля аказвае выключна негатыўны ўплыў на курс грыўны». Грыўна, сапраўды, стала больш слабай за апошні месяц (зараз за долар у Кіеве даюць каля 19–20 грыўняў, хаця ў лістападзе прапаноўвалі толькі 18). Варта адзначыць, што ва ўкраінскім грамадстве папулярныя надзеі, што фінансавая катастрофа ў Расіі здольная аслабіць падтрымку Крамлём данбаскіх сепаратыстаў. Таму тут мала звяртаюць увагу на кошт расійскай дэвальвацыі для грыўны.

Вось такія першыя малапрыемныя наступствы расійскай дэвальвацыі для краін-суседак. На жаль, як бачым, эканамісты не радуюць нас прагнозамі. Падзенне расійскага рубля пацягне на дно валюты СНД. З іншага боку, такія выклікі могуць спрыяць распрацоўцы ў краінах новай больш бяспечнай мадэлі манетарнай палітыкі.

# Ніякага кампрамісу з Гаванай!

Алег НОВІКАЎ

**Частка кубінскай апазіцыі выступае супраць намеру адміністрацыя Барака Абамы нармалізаваць адносіны з Гаванай.**




Калі вывучаеш цяперашні стан кубінскай апазіцыі, міжволі ўзнікаюць асацыяцыі з Беларуссю. Вось, напрыклад, кубінская ініцыятыва Varela Project, чыя канцэпцыя дзейнасці вельмі нагадвае беларускі праект «Народны рэферэндум». Як і аўтары «Народнага рэферэндуму», актыў Varela Project лічыць, што можа дагрукацца да аўтарытарнай улады праз петыцыйныя кампаніі па нейкіх не вельмі палітызаваных тэмах. Ці, напрыклад, незарэгістраваная партыя «Хрысціянскі вызвольны рух», якая па сваёй дзейнасці вельмі падобная да «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» (БХД), што марыць запусціць працэс пераменаў у грамадстве за кошт росту хрысціянскай свядомасці.

І, натуральна, нельга прайсці міма тэмы расколаў і скандалаў у лагеры кубінскай апазіцыі. Як і наша апазіцыя, кастрафобы ўпарта не могуць дамовіцца паміж сабой наконт таго, хто з іх павінен быць лідарам. Апошняя спроба аб'яднання мела месца ў часы прэзідэнцтва Буша-малодшага, эмісары якога дабіліся ад кубінцаў стварэння агульнай платформы. Аднак эра адзінства працягнулася не больш за два гады, прычым галоўную ролю ў справе развалу згулялі асабістыя амбіцыі правадыроў розных фракцый. Чым не праекцыя на нядаўні правал абрання адзінага кандыдата ад беларускай апазіцыі?

Паралелі хочацца праводзіць і з улікам агучанай 17 снежня сумеснай заявы Вашынгтона і Гаваны наконт аднаўлення дыпламатычных адносін. Яна чымсьці нагадвае нядаўнія кампліменты Еўропы на адрас Мінску. Прэзідэнт ЗША Барак Абама і кубінскі кіраўнік Рауль Кастра заявілі аб аднаўленні дыпламатычных адносін паміж краінамі. Нагадаем, дыпламатычныя адносіны ЗША і Кубы былі разарваныя ў 1961 годзе з-за праведзенай новымі ўладамі Кубы на чале з Фідэлем Кастра нацыяналізацыі цукровых плантацый і канфіскацыі амерыканскай уласнасці, уключаючы нафтавыя заводы. Адначасова Штаты ўвялі эмбарга на пастаўку прадукцыі на Кубу.

Тэма санкцый — сакральная для кубінскай апазіцыі. Пасля таго, як правалі ўся дэсант у Заліве свінняў у 1959 годзе, апазіцыянеры доўгі час спадзяваліся зваліць Кастра праз эканоміку і дыпламатычны ціск. Аднак рэжым у Гаване па розных прычынах выстаяў. Не дапамог нават хіп-хоп: нядаўна стала вядома, што амерыканскі фонд USAID падтрымліваў развіццё музычнай рэп-сцэны на Кубе, каб стварыць пратэстную моладзевую субкультуру.

Паступова змяніліся і падыходы ў Белым доме. Напрыклад, сярод лацінас (амерыканцы лацінаамерыканскага паходжання) пракубінскія сентыменты вельмі папулярныя, а дэмакратам патрэбныя галасы на выбарах. Вырасла новая генерацыя кубінскіх палітыкаў, якім не цікава паўтараць мантру пра жудаснага Кастра. Яны больш арыентаваныя на паўсядзённыя праблемы кубінскай іміграцыі.

Як следства, антыкастраўская апазіцыя аказалася ў ступары. Перад ёй стаіць выбар: або шукаць новую парадыгму, або адаптавацца да новай рэальнасці. Аматары другой опцыі гуртуюцца вакол Cuban American National Foundation (Кубінскі амерыканскі нацыянальны фонд) — вядучай арганізацыі, якая лабіруе ў Вашынгтоне інтарэсы кубінскіх імігрантаў. Аўтарытэт установы трымаецца таксама на тым, што яе фундатарамі былі ветэраны мілітарнага антыкастраўскага супраціву. Цяпер у дырэктараце Cuban American National Foundation рыторыка значна больш пацыфісцкая. Кіраўнікі арганізацыі лічаць, што стратэгія Абамы на дыялог з Кастра дазволіць паступова пашыраць арэал грамадзянскай супольнасці.

Аднак не ўсе згодныя з «капітуляцыяй» (так праціўнікі дамовы з Кастра называюць заяву 17 снежня). Амаль адразу, 19 снежня, у Маямі — бастыёне кубінскай дыяспары — прайшлі вулічныя акцыі. Яе арганізатарамі стала кааліцыя з 40 антыкастраўскіх груповак. Агульную думку маніфестантаў выказаў адзін са спікераў, якога цытуе мясцовая прэса. «Нават без Барака Абамы апазіцыя будзе змагацца», — сказаў ён.

Адначасова быў апублікаваны адкрыты ліст на адрас Абамы, у якім аналізуецца яго спіч 17 снежня. Абаму вінавацяць у тым, што ён не ўзгадаў камуністычнае мінулае Кастра, і ў тым ліку тое, што на пачатку 1960-х гадоў на Кубе знаходзіліся савецкія атамныя ракеты, якія пагражалі ЗША. На думку аўтараў ліста, Вашынгтон не разумее, што місіі кубінскіх медыкаў у розных краінах (Абама ў сваім выступе асабліва падзякаваў ім за барацьбу з эпідэміяй Эболы) — не што іншае, як устанаўленне шпіёнскай агентуры. Нагадваюць гаспадарам Белага дому і кантакты Кубы з Паўночнай Карэяй, якая ўяўляе непасрэдную пагрозу ЗША. Непрымірымыя апазіцыянеры ўпэўненыя, што Абама мог бы дабіцца вызвалення ўсіх палітвязняў Кубы за скасаванне эмбарга.

Пасланне антыкастраўскіх фундаменталістаў заканчваецца выразам: «Прамова Абамы была несумленнай і крывадушнай. Гэта былі злавесныя ўводзіны да новай палітыкі, якая можа мець шанец, калі б яна не была заснаваная на такой відавочнай непавазе да амерыканцаў і годнасці інтарэсаў Кубы».

Якія шансы маюць кубінскія дысідэнты на тое, каб змяніць курс адміністрацыі Абамы адносна Кубы? Па іх словах, вельмі добрыя. Асноўныя надзеі яны ўскладаюць на нядаўнія змены ў Кангрэсе, які фармальна павінен зацвердзіць кандыдатуру амерыканскага пасла ў Гаване. Пасля лістападаўскіх выбараў у ніжняй палаце амерыканскага парламента дамінуюць рэспубліканцы, якія любяць вінаваціць Дзярждэп за, на іх думку, кампрамісную бяззубую замежную палітыку. Таму ўсіх прэтэндэнтаў на пасаду прадстаўніка ЗША на Кубе могуць бясконца заварочваць. Праўда, парламентарыі-дэмакраты, у сваю чаргу, кажуць, што нават рэспубліканцы гатовыя да дыялогу з Гаванай. Маўляў, курс на канфрантацыю давёў сваю неэфектыўнасць.

Пакуль цяжка сказаць, якая фракцыя ўнутры кубінскай апазіцыі пераможа. Адпаведна апытанням, праведзеным газетай «Miami Herald», 48 працэнтам амерыканцаў кубінскага паходжання не падабаецца ідэя нармалізацыі адносін Кубы і ЗША. У сваю чаргу, 44 працэнты прадстаўнікоў дыяспары з Кубы падтрымліваюць снежаньскія кубінскія ініцыятывы Абамы.

**Адпаведна апытанням, праведзеным газетай «Miami Herald», 48 працэнтам амерыканцаў кубінскага паходжання не падабаецца ідэя нармалізацыі адносін Кубы і ЗША. У сваю чаргу, 44 працэнты падтрымліваюць кубінскія ініцыятывы Абамы**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Януш Корвін-Міке



Дзякуючы правакацыйным заявам і, па чутках, падтрымцы з боку пасольства Расіі ў Варшаве, скандальны польскі палітык і яго партыя «Кангрэс польскіх правых» (KNP) у мінулым годзе прарваліся ў вышэйшы дывізіён палітыкі. KNP атрымаў сваю фракцыю ў Еўрапарламенце і пачаў балансаваць на мяжы праходу ў Сейм. Такому поспеху не перашкодзіла публічная падтрымка Янушам палітыкі Пуціна на Украіне і заклікі да выхаду Польшчы са складу ЕС. Аднак цяпер зорнай кар'еры Корвіна-Міке, падаецца, надышоў канец. 6 студзеня на з'ездзе KNP лідарам партыі нечакана быў абраны еўрадэпутат Міхал Марусік, які прадстаўляе ўнутраную апазіцыю. Апазіцыя крытыкуе Корвіна-Міке за намер увайсці ў кааліцыю з кансерватыўнай партыяй «Права і Справядлівасць» (PiS). Імідж Корвіна-Міке сярод аднапартыйцаў таксама сапсаваў нядаўні скандал: стала вядома, што ён мае двух пазашлюбных дзяцей. Прэса піша, што экс-лідар KNP пасля правалу паспрабуе заснаваць новую партыю, у поспех якой, праўда, мала хто верыць. Што тычыцца будучыні KNP, то партыя, відаць, працягне шакіраваць публіку нестандартнымі ідэямі. Новаабраны лідар выступае за трансфармацыю Польшчы ў каталіцкую манархію.

### Іслам Карымаў



Усе ўзбекі заінтрыгаваныя: ці пагодзіцца іх прэзідэнт зноў балатавацца на пасаду? Днямі ва Узбекістане афіцыйна пачалася кампанія па выбарах прэзідэнта. Раней гэта было дзяжурнае пераабранне Карымава, які займае прэзідэнцкую пасаду ўжо амаль 25 гадоў (да гэтага ён займаў пасаду першага сакратара ЦК Кампартыі Узбекскай ССР). Фармальна Канстытуцыя Узбекістана забараняе аднаму чалавеку займаць прэзідэнцкую пасаду больш за два разы запар. Нягледзячы на гэта, у 2007 годзе Карымаў быў пераабраны на трэці тэрмін. Яго прыхільнікі сцвярджалі, што з-за ўнясення паправак у Канстытуцыю (змены працягласці прэзідэнцкага тэрміну, які быў павялічаны з пяці да сямі гадоў, а пазней зноў паменшаны — з сямі да пяці) папярэднія тэрміны Карымава як бы «абнулілі», што дазволіла яму балатавацца ў прэзідэнты ў чарговы раз. Але зараз Карымаў пакуль не агучыў свайго жадання пераабрацца. Магчыма, прычына — ягоны ўзрост (Карымаву споўнілася 76 гадоў). Таму па Узбекістану гуляюць чуткі, што Іслам Карымаў рыхтуе аперацыю «пераемнік». У якасці кандыдатаў на пераемніка называюцца імёны кіраўніка ўзбекскіх спецслужбаў Рустама Інаятава і віцэ-прэм'ера Рустама Азімава.

### Таміа Акамура



Чэшскі грамадзянін японскага паходжання, старшыня партыі «Úsvit přímé demokracie» (Світанак прамой дэмакратыі) прымусіў усю Чэхію спрачацца наконт сваёй ісламафобскай выхадкі. Як напісаў Таміа на сваёй старонцы ў Facebook, «усе чэхі павінны «заводзіць сабак і парсюкоў у якасці хатніх улюбёнцаў і выгульваць іх у [ісламскіх] раёнах і каля мячэцяў». 42-гадовы выхадзец з Японіі таксама заклікае чэхаў байкатаваць халяль-рэстараны і мусульманскія крамы, заяўляючы, што «кожны кебаб фінансуе яшчэ адну паранджу». Публіка ў большасці крытычна ўспрыняла парады лідара партыі «Úsvit přímé demokracie». МУС асудзіў Акамуру, аднак узбуджаць крымінальную справу, як патрабуе мусульманская камуна, пакуль не стаў. Найбольш творчыя апаненты стварылі ў Facebook старонку-запрашэнне на акцыю «Усенародны дзень кебаба» або «Кебабам па дэбілізму». Арганізатары прапанавалі ўсім жыхарам Чэхіі 9 студзеня роўна ў 18:00 пайсці і купіць у сваім горадзе кебаб. «Усім народам будзем есці кебаб. Акамура нас не спыніць, не забярэ ў нас нашы кебабы», — сказана ў запрашэнні. Напярэдадні свой удзел у акцыі пацвердзілі ўжо 4,5 тысячы чалавек. Крытыкі Акамуры звяртаюць увагу на тое, што яго заява прагучала сінхронна з ісламафобскім мітынгам ва Усходняй Германіі. Такое супадзенне можа значыць, што ісламафобія паступова становіцца адной з улюбёных тэмаў папулістаў усходнееўрапейскага рэгіёну.

# Я быў жаўнерам швадрона Рагулі

Алесь КІРКЕВІЧ

**Адшукаць кватэру Яўгена Усюкевіча ў Навагрудку не так і цяжка, калі ведаеш арыенцір — краму №5 амаль на ўскраіне горада. Званок у дамафон. Пранізлівы гук — дзверы адчыненыя. На лесвічнай пляцоўцы сустракае далёка не малады, але ні ў якім разе не знішчаны жыццём чалавек. Няхай на дзвюх мыліцах, але з акуратна прыбранымі валасамі, бліскучымі вачыма і жывой цікавасцю да гасцей. Яўген Усюкевіч — адзін, верагодна, з апошніх жаўнераў Навагрудскага швадрону.**

**Даведка:**
Навагрудскі конны швадрон — вайсковая адзінка, створаная ў Навагрудку Барысам Рагулем у лістападзе 1943 года са згоды нямецкага кіраўніцтва. Касцяком швадрону сталі выхаванцы Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Шкаленне трывала з восені 1943 па вясну 1944-га, лічыцца, што вясной 1944-га швадрон удзельнічаў у баях з польскімі і савецкімі партызанамі. У траўні 1944 г., пасля арганізацыі ў Навагрудку адзінкі Беларускай Краёвай Абароны (БКА), швадрон быў уключаны ў яе склад у якасці коннай роты, Рагуля заняў пасаду камандзіра батальёна. Далейшы лёс рагулеўцаў склаўся па-рознаму: нехта трапіў у 30-ю дывізію СС, нехта ў школу дыверсантаў Дальвіц у Прусіі, нехта на захадзе здаўся ў палон альянтам і працягнуў службу ў польскім войску генерала Андэрса.







Сустрэча з баявым таварышам — справа Язэп Сажыч

***— Як вы трапілі ў швадрон Рагулі?***

— Спачатку я служыў у чыгуначным батальёне, але мне не спадабалася. З дапамогай Юзіка Сажыча я выкруціўся і паступіў у Настаўніцкую семінарыю — на II курс. Але не скончыў… Пачаўся швадрон, мабілізацыя. Нам абяцалі, што будзе беларускі корпус.

Каб на сённяшні розум, я б, можа, як слімак, у якую шчыліну забраўся б (пасміхаецца). Але нам хацелася свайго, беларускага! Мы ж адчувалі нацыянальны голад — то палякі, то саветы…

***— А партызаны не помсцілі?***

— Бацькоў ставілі пад расстрэл. Майму бацьку адзін партызан сказаў: «Едзьце ў Любчу, бо вас могуць сёння знішчыць». Бацька выехаў, а праз дзень партызаны спалілі ўсю гаспадарку. Калі ўжо немцы адступалі, я сказаў і бацьку, і брату, які хацеў са мной, каб нікуды не ехалі, ані на крок. Бо немцы для нас не хаўруснікі: такія ж ворагі, як і саветы.

Было, што і нашы сыходзілі ў лясы. Частка рагулеўцаў перайшла да партызанаў у Любчы. І мой швагер па стрыечнай сястры Юзік Крака — узводным быў — таксама перайшоў. Там быў Вялёнда сувязны, цэлы ўзвод, дамовіліся — і перайшлі.

Калі швадрон толькі арганізаваўся, у Навагрудку быў гебіт-камісарам Траўб, аўстрыяк. Адчувалася, што не такі радавіты арыец (пасміхаецца). Васіль Рагуля, дзядзька Барыса, былы пасол польскага сейму, казаў Траўбу: «Вы нам дазваляеце нешта зрабіць, калі ўжо самі ў штаны напусцілі». А Барыс сказаў: «Каб аніводнага немца ў швадроне не было». І не было. Беларуская мова, беларускія каманды…

На айнзацы, карныя акцыі не выязджалі. Вучыліся трымаць зброю ў руках, ладзілі вышкалы. Ніхто не спадзяваўся на перамогу немцаў. Бо ж сам Гебельс падчас Сталінграда заявіў, што гэта «наш кульмінацыйны пункт». Маўляў, калі не пройдзем яго, то пакоцімся назад. Так і атрымалася.

Пасля нас кінулі ў Докшыцы, на Віцебшчыну — у «партызанскі край», але ніякіх там партызанаў не бачылі. Каля рэчкі Поня ў лесе стаялі. Ані акопаў, ані ўмацаванняў не мелі, так, ахоўвалі… Толькі ў лесе знайшлі хлопчыка паўжывога, галоднага — год 10. Паднялі яго — партызанская дзіцё, уцёк у лес з вёскі.

Праз нейкі час Рагулі далі каманду рухацца ў бок Вільні. Але ён не выканаў загад, павярнуў нас назад, кажа: «Дзе я вас узяў, хлопцы, туды я вас і завяду». Дабрацца было цяжка, але ішоў пусты нямецкі таварняк. Дамовіліся, пагрузіліся на платформе. Высадзіліся ў Лідзе — з шумам, трэскам. Немцы адступаюць, казачыя часткі, а мы — ідзем у Навагрудак. Дайшлі, пераначылі.

А на раніцу ён нам гаворыць: «Хлопцы, немцы вайну прайгралі — так ім і трэба. Я тут не застаюся — хто хоча, пайшлі са мной. А хто не — разыходзьцеся, заставайцеся». Пайшло з ім чалавек 30–40. Мы з Друцькам на конях адступалі ажно ў Прусію. Барыс на машыне з некалькімі хлопцамі паехаў іншым шляхам, больш у Нямеччыне мы з ім не сустракаліся. Ён у Дальвіцы там арганізаваў дэсант, але я асабіста не прыхільнік гэтага, дарэмна.

***— Дзе апынуліся пасля?***

— Я адступаў у Прусію, а пасля сабралі нас усіх, недабойкаў, і ўкраінцаў, і паліцыю розную, і арганізаваліся ў 30-ю дывізію СС. Чаму? Бо ўсіх замежнікаў пры нямецкім войску курыраваў Гімлер. Нас кінулі ў Эльзас і Латарынгію супраць амерыканскіх частак і французаў. Але з дывізіі атрымаўся пшык: шмат хто пераходзіў цэлымі ўзводамі на амерыканскі бок.

Я быў фельдфебелем, Друцька — лейтэнантам. Мы неяк стаялі на ўзгорку, унізе былі амерыканцы. То ён вылез і страляе па іх у цемры. Я кажу: «Мікалай, што ты робіш? У нас задача перайсці да іх, а не ваяваць зараз». Але ён такі быў — злавіў кулю ў калена.

Наогул, калі 30-я дывізія трашчала па швах, на яе аснове хацелі арганізаваць беларускую дывізію. Немец мне адзін казаў, што зараз разгортваецца беларускі полк, а пасля — дывізія. Мы мелі нацыянальны полк. Я памятаю 25 сакавіка 1945 года, маршыравалі, адзначалі ўгодкі БНР такім чынам. Пасля гэтага ўласаўскі генерал-маёр дамовіўся з Кушалем пра месца пераходу да амерыканцаў. Амерыканцы падрыхтавалі трасу. Уласаўцаў, ясна, было болей за нас.

У амерыканскім палоне мы былі тры месяцы. Памятаю, у 45-м на Вялікдзень нас змясцілі фактычна ў балота на адкрытай мясцовасці. Мокра было, награбалі купкі, каб прысесці хоць. Трое сутак нічога не давалі есці. Пасля з гэтага балота перакінулі ў намёты ў горадзе Шэрбург. Гэта Нармандыя, у добрае надвор'е быў бачны англійскі бераг.

Перад пераходам да амерыканцам мне Кушаль пагоны лейтэнанта наляпіў (пасміхаецца), таму я ўжо лічыўся за афіцэра. Было спадзяванне, што мы паваюем яшчэ супраць саветаў. Бо было спадзяванне шмат у каго на далейшы канфлікт альянтаў з Саюзам. Чэрчыль да гэтага і схіляўся, але амерыканцы не пагадзіліся.

***— А як перадалі саветам?***

— Нас, як афіцэраў, аддзялілі ад жаўнераў. Кушаль быў, Сокал-Кутылоўскі, капітан Шчорс — мой сябар. І вось, кажуць: «Бярыце рэчы. Ідзем на вакзал». Прайшлі ў Шэрбурзе з кіламетр, падыходзім, а там ужо чакае чалавек трыццаць: чырвоныя акалышкі, сабакі… «Здравствуйте, господа офицеры. Следуйте в вагон».

Таварныя вагоны былі. Памятаю, адзін лейтэнанцік савецкі гаворыць: «У нас теперь все по-иному, мой отец получил 10 гектар земли…» Уласаўскія афіцэры сядзелі побач, смяяліся з яго: «Что ты мелешь?!» Прывезлі ў Айзенах, у Нямеччыну.

***— А чаму не перадалі Франца Кушаля, вашага камандзіра?***

— Тыя, хто запісаўся палякамі, мелі шанец пасля служыць у Андэрса… Ён, відавочна, замэльдаваўся як польскі афіцэр, таму яго амерыканцы пакінулі. Як я зараз магу выказацца з гэтай нагоды? Не хочацца груба…

***— То бок ён кінуў сваіх падначаленых?***

— А як жа?! Сокал-Кутылоўскі ляжаў побач са мной тры месяцы, маёр быў. А Кушаль — палкоўнік. І як толькі мы перайшлі да амерыканцаў — ён знік. А мяне з Сокалам-Кутылоўскім судзілі ў адзін дзень. Шчорс далей не быў у нашай групе, я яго не бачыў.

…Выгрузілі нас з вагонаў. Афіцэры, СМЕРШ, медалямі сваімі трасуць — «победители»… Але адносіліся нармальна, казалі: «Ничего, товарищи, все хорошо будет». Супам нагадавалі.

***— А як вас судзілі?***

— Памятаю, у Нямеччыне яшчэ, прыйшла дзяўчына прыгожая — сакратар суда, пакруцілася, паглядзела і пайшла. На наступны дзень прыходзіць капітан — высокі, з проседдзю — пытаецца: «Как дела?» «Чакаю, калі шлёпнуць», — адказваю. Ён кажа: «Успокойся, тебе много не дадут, больше восьми — не дадут». Такая вось была амаль сяброўская размова.

**Я быў у каменданцкім лагеры ў Рыбінску ў Яраслаўскай вобласці. У 1952-м, здаецца, годзе да нас кінулі чалавек 30 савецкіх генералаў. У тым ліку Цялегіна, Самохіна, Арлова, Брычкоўскага і інш. Давялося і з імі перасякацца**

Следства трывала два дні, ніхто больш не прыходзіў. Судзіў суддзя 132-й Бахмуса-Варшаўскай дывізіі. Падчас адлігі ў «Известиях» пісалі, што гэты суддзя акурат даваў мінімальныя тэрміны. Нават уласаўскім афіцэрам-агітатарам, якія былі з намі, больш дзясяткі не далі. Сокал-Кутылоўскаму далі 10 год. Мне — 8.

Дарэчы, Сокал-Кутылоўскага нашы халуі дасталі з Поўначы, вярнулі ў Беларусь і далі 25 год. Во як! Калі б мяне так асудзілі — я б ніколі не вярнуўся на Радзіму. А ён вярнуўся, выжыў, памёр пасля сваёй смерці. Дзякуючы Адэнаўэру, дарэчы, бо калі той прыехаў пасля смерці Сталіна і размаўляў з Маленковым, паплылі ўжо касякі з лагераў. Адэнаўэр — вялікі чалавек!

Я быў у каменданцкім лагеры, дзе было больш налягаў з боку начальства — у Рыбінску ў Яраслаўскай вобласці. У 1952-м, здаецца, годзе да нас кінулі чалавек 30 савецкіх генералаў. У тым ліку Цялегіна, Самохіна, Арлова, Брычкоўскага і інш. Давялося і з імі перасякацца.

Калі мяне выпускалі, то жанчына з 2-га аддзелу запыталася: «А у вас там нету никаких военных объектов?» Так дазволілі вярнуцца да бацькі ў вёску Хадасы на Навагрудчыне. Але бацька спалены быў падчас вайны партызанамі. Брат — Аляксандр — у турме.

***— Шмат блізкіх прайшло такую ж школу, як вы?***

— Так, дастаткова. Брат мой вярнуўся з фронту, сяржант, кантужаны крыху. Дэмабілізаваўся, вырашыў скончыць дзесяцігодку ў Навагрудку, дык іх 18 чалавек пасадзілі за «Саюз вызвалення Беларусі» (у 2013 памёр — апошні). Стрыечнаму брату — Жэню Ляшку — далі 25, Дземянчуку — 10…

Аляксандру, брату, таксама далі «дзясятку» — як удзельніку вайны. Яго выклікаў да сябе Цанава, наркам унутраных спраў БССР, дык брат схапіўся за крэсла, але не паспеў апамятавацца — далі яму добра. Ён год 9 таму памёр у Казахстане… Дарэчы, Андрэя Вайтовіча, які быў дыверсантам Рагулі, Цанава таксама асабіста выклікаў: «Как это так — против отца родного?» (Сталіна меў на ўвазе). А той у адказ: «Які ён мне бацька?!» Вось як.

…Трэба спяшацца — маршруткі ў Гродна з Наваградка ходзяць не так часта. Перадаю спадару Яўгену кніжку Лявона Юрэвіча «Жыццё пад агнём», напісаную са словаў Барыса Рагулі. «Людка Гутар, Валодзя Сіўко», — цiхім голасам сам сабе прамаўляе ветэран, разглядаючы дадатак з фотаздымкамі…

# Ён марыў пра незалежную Беларусь



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Здавалася б, што гісторыя бацькоў-заснавальнікаў БССР дасканала вывучана. Аднак часам усё ж трапляюцца малавядомыя дакументы. Адным з такіх з'яўляецца ліст беларускага палітычнага дзеяча і навукоўца Яўсея Канчара, які той накіраваў старшыні Вярхоўнага Савета БССР Сяргею Прытыцкаму.**

## Пасланне «па-за чаргой»

У студзені 1968 года новым кіраўніком савецкай Беларусі стаў былы актыўны дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі Сяргей Прытыцкі. Пасля працы на Гарадзеншчыне ў лютым 1954 года ён быў абраны першым сакратаром Маладзечанскага абкама партыі, а ў 1960 годзе стаў сакратаром аналагічнай структуры ў Мінску. Пазней узначаліў Камітэт партыйна-дзяржаўнага кантролю, адкуль, нарэшце, і перайшоў на пасаду кіраўніка БССР.

У снежні 1968 года Мінск рыхтаваўся да святкавання 50-й гадавіны стварэння БССР. У беларускіх гарадах з'яўляліся аднайменныя вуліцы, ставіліся новыя помнікі, працоўныя калектывы рыхтаваліся да мітынгаў і дэманстрацый, а часткі Беларускай вайсковай акругі (дарэчы, у лютым 1968 года ўзнагароджанай Ордэнам чырвонага сцяга) рыхтаваліся да параду. 29 снежня ў сталіцы савецкай Беларусі адбыліся ўрачыстыя мерапрыемствы. А праз некалькі дзён на стале Сяргея Восіпавіча апынуўся канверт, на якім было пазначана: «па-за чаргой», «горад Мінск, Вярхоўны Савет БССР, Прытыцкаму Сяргею Восіпавічу, ад прафесара Канчара Я.С.».

Прывядзем тэкст паслання:

«Дарагі і паважаны Сяргей Восіпавіч!

Дазвольце мне, старому бальшавіку, павіншаваць Вас і ў Вашай асобе Прэзідыум Вярхоўнага савета з вялікай датай — Пяцідзесяцігоддзем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Я жадаю Вам здароўя і далейшых поспехаў у Вашай дзейнасці на карысць Савецкай Беларусі і яе народа.

52 гады таму лепшыя розумы Беларускага краю паднялі голас і аддалі свае сілы за вызваленне Беларусі, за стварэнне яе дзяржаўнасці, паклалі першыя асновы ў фундамент вечнай, непахіснай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Я шчаслівы, што ў іх ліку знаходжуся і я, і што зараз падзяляю з Вамі нашу агульную радасць. З шчырай павагай і адданасцю прафесар Канчар Я.С. Ленінград, 28 снежня 1968 года».

Унізе ліста рукой аўтара была прыведзена яго скарочаная біяграфія:

«Сапраўдны член Геаграфічнага таварыства СССР — Акадэміі навук СССР; Член гістарычных (так у дакуменце) 1917–1919 гг.: Усерасійскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў; Беларускай секцыі Камітэта маракоў Балтыйскага флоту; Беларускага абласнога Камітэта пры ВЦВК.

Адзін з арганізатараў Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамаце СНК РСФСР, Беларускай секцыі ВКП(б). Выканаўца асабістых указанняў Леніна і Сталіна (вылучана аўтарам)».

Што ж гэта за «стары беларускі бальшавік» з Ленінграда, падумаў Сяргей Прытыцкі і выклікаў сакратара. «Падрыхтуйце мне даведку на гэтага чалавека», — загадаў кіраўнік савецкай Беларусі.

## Арганізатар Першага ўсебеларускага з'езду

Кім жа быў на самай справе Яўсей Канчар? Ён нарадзіўся ў 1882 годзе ў вёсцы Сяўкі, Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1906 годзе за ўдзел у рэвалюцыйнай дзейнасці быў арыштаваны царскімі ўладамі, а праз два гады апраўданы судом. У 1910 годзе Яўсей Сцяпанавіч пераехаў у сталіцу Расійскай імперыі, дзе ўдзельнічаў у кааператыўным руху. У гэты час ён актыўна публікаваўся ў розных перыядычных выданнях, у тым ліку і беларускай «Нашай Ніве».

У 1917 годзе Канчар уступіў у Беларускі нацыянальны камітэт, а ў лістападзе стаў старшынёй Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе. У снежні таго ж года ў Мінску пачаў сваю працу Усебеларускі з'езд, які павінен быў вызначыць будучыню беларускіх тэрыторый. Адным з яго арганізатараў быў менавіта Яўсей Канчар. Пры гэтым палітык актыўна вёў перамовы з Леніным і Сталіным.

Гэты крок беларусаў у накірунку да будаўніцтва нацыянальнай дзяржаўнасці не спадабаўся бальшавікам, і па рашэнню Абласнога выканаўчага камітэта саветаў рабочых,



Яўсей Канчар з жонкай і сястрой, 1938 год




Віншаванне Канчара Прытыцкаму, 1968 г.



Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Прытыцкі

салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту сход быў разагнаны. У 1918 годзе Яўсей Сцяпанавіч працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце і быў адным з кіраўнікоў Маскоўскага прадстаўніцтва гэтай арганізацыі. У гэты час ён высоўваў ідэю аб неабходнасці склікання Другога Усебеларускага з'езду, аднак яго не пачулі. У 1919 годзе ў Петраградзе ён выдае кнігу «Беларускае пытанне», якую пазней савецкія ўлады назавуць «нацыяналістычнай». У гэтай і іншых працах даследчык крытычна ставіўся да пазіцыі бальшавікоў як праціўнікаў нацыянальнага руху. Разам з гэтым ён крытыкаваў і кіраўнікоў Беларускай рады за іх «непадрыхтаванае» абвяшчэнне БНР.

## Ахвяра сталінскіх рэпрэсій

У выніку польска-бальшавіцкай вайны палова беларускай тэрыторыі адышла да Другой Рэчы Паспалітай, а ва ўсходняй частцы нашай краіны была створана (1 студзеня 1919 года) Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь. Яўсей Канчар пераехаў у Петраград, адышоў ад палітыкі і заняўся навуковай і выкладчыцкай працай. У 1929 годзе ён узначальваў Беларускае навуковае таварыства ў Ленінградзе.

У маі 1937 года Яўсей Канчар накіраваў у Сакратарыят шматтомнай «Гісторыі Грамадзянскай вайны» свае ўспаміны. Вось як гэтую працу ацэньвалі савецкія чыноўнікі: «Даследаванне можа быць выкарыстана як даведачны матэрыял. Яно дае звесткі пра існаваўшыя ў 1917–1918 гг. беларускія арганізацыі, як на тэрыторыі Беларусі, так і ў іншых гарадах Расіі. Аўтар дае гісторыю гэтых арганізацый, час іх узнікнення, колькасць членаў, палітычную праграму, прозвішчы».

Відавочна, пераезд з Беларусі выратаваў жыццё навукоўцу. Падчас сталінскіх чыстак канца 1930-х гадоў амаль усе тыя, хто стаяў ля вытокаў БССР, былі рэпрэсаваныя органамі НКУС. У лістападзе 1938 года быў арыштаваны і Яўсей Канчар. Яго абвінавацілі ва «ўдзеле ў беларускай нацыяналістычнай арганізацыі «Сацыялістычная грамада».

Пад Канчара капалі даўно. У матэрыялах ГПУ ў пачатку 1930-х гадоў сустракаюцца ўзгадкі пра «правага эсэра», «народніка» Канчара, «які быў упэўнены, што Беларусь павінна быць незалежнай рэспублікай». Аднак ужо ў сакавіку 1939 года з-за адсутнасці складу злачынства беларускага навукоўца вызвалілі з вязніцы. У 1941–1944 гадах Канчар знаходзіўся ў блакадным Ленінградзе і выжыў.

У пасляваенны час Яўсей Канчар займаўся навуковай і выкладчыцкай працай у Ленінградзе. Пры гэтым ён да канца жыцця спрабаваў не губляць сувязяў з Радзімай. Гэтым абумоўлены і вышэй узгаданы ліст, які Яўсей Канчар зімой 1968 года накіраваў у Мінск.

## «Эсэр-нацыяналіст»

На запыт сакратарыята старшыні Прэзідыума Вярхоўнага савета БССР «адказныя таварышы» прыгатавалі дастаткова кароткую даведку. Працытуем яе тэкст:

«Са слоў намесніка дырэктара інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ па партархіву таварыша Пачаніна С.З. Канчар Яўсей Сцяпанавіч да рэвалюцыі быў членам партыі эсэраў. Выступаў супраць Савецкай улады.

У 1919 годзе Белнацкамам была выдадзена нацыяналістычная па сваім змесце кніга Канчара «Беларускі рух», прасякнутая духам нянавісці да Савецкай дзяржавы.

Ніякіх матэрыялаў аб Канчары Я.С. у партархіве пры ЦК КПБ не маецца».

Мы не ведаем, ці адказаў Сяргей Прытыцкі на віншавальны ліст, які прыйшоў на імя старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Аднак, як адзначаў беларускі архівіст Віталь Скалабан, у студзені 1969 года газеты савецкай Беларусі паведамілі, што сярод віншаванняў на імя кіраўніцтва рэспублікі быў і ліст ад «ветэрана Камуністычнай партыі з Ленінграда Я. Канчара». Пры гэтым той жа Віталь Скалабан пазначаў, што «членам партыі Яўсей Канчар ніколі не быў».

Праз два гады пасля гэтых падзей, у чэрвені 1971 года, кіраўнік савецкай Беларусі Сяргей Прытыцкі памёр.



Адзін з мітынгаў у снежні 1968 года ў гонар 50-годдзя БССР



# Рыжская мяжа

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У Заслаўі прайшла экскурсія па «рыжскай мяжы». Мерапрыемства было арганізавана беларускай турыстычнай фірмай «Міжнародны бізнэс» і прымеркавана да навагодніх і калядных вакацый.**

Удзельнікі экскурсіі ўбачылі казармы і камендатуру 15-га Заслаўскага атрада памежных НКУС БССР, якія захаваліся да нашых дзён, а таксама даведаліся пра тое, як горад абараняўся ад нацыстаў у чэрвені 1941 года. Як вядома, у той абароне, акрамя чырвонаармейцаў 64-й стралковай дывізіі, удзельнічалі і памежнікі, якія здолелі адысці з лініі старой мяжы, што ў перыяд з канца 1939-га па чэрвень 1941 года называлася «лініяй загароды».

Наступным пунктам экскурсіі стаў ДАК №105 Мінскага ўмацаванага раёна РСЧА. Затым экскурсійны аўтобус накіраваўся ў вёску Меткава, дзе ўдзельнікі экскурсіі ўбачылі будынак былой савецкай 5-й памежнай заставы і пазнаёміліся з гісторыяй жыцця польска-савецкай мяжы да верасня 1939 года.

У Новым Полі можна было паглядзець палац Друцкіх-Любецкіх. І, нарэшце, «кардон». Сучасная адміністрацыйная мяжа паміж Мінскім і Валожынскім раёнамі праходзіць там, дзе да 1939 года была мяжа паміж Другой Рэччу Паспалітай і БССР. На каталіцкіх могілках Ракава ўдзельнікі экскурсіі змаглі ўбачыць магілы «кантрабандыстаў» і «ахвяраў мяжы».

Канчатковым пунктам экскурсіі стала вёска Душкава, побач з якой знаходзілася стражніца польскага Корпусу Аховы Памежжа. Тут вельмі выразна бачная лінія «рыжскай» мяжы. «Міжнародны бізнэс» плануе ўключыць у экскурсію новыя аб'екты для наведвання. Балазе, пад Заслаўем іх хапае.

## ЗАПРАШАЕМ НА ІМПРЭЗУ

БУДЗЬМА

**У межах кампаніі «Будзьма!» на сядзібе ТБМ адбудзецца прэзентацыя новай кнігі доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча «Краіна Пагранічча».**

Выбраныя эсэ, рэпартажы, публіцыстыка, навукова-папулярныя працы, створаныя за апошнія тры дзесяцігоддзі і аб'яднаныя агульнай тэмай гісторыі Краіны Пагранічча, якая сёння называецца «Беларусь». Частка прац публікуецца ўпершыню.

Па тэкстах, укладзеных у храналагічным парадку, можна заўважыць, як эйфарыя свабоды ў беларускім грамадстве пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя зноў змяняецца настроем на будзённую працаглую працу мацавання нацыянальнай тоеснасці...

Прэзентацыя кнігі адбудзецца 16 студзеня 2015 г. (пятніца) у 17.00 гадзін. Аматары літаратуры і гісторыі будуць мець магчымасць задаць аўтару пытанні.

Уваход вольны.

# У пошуках беларускага золата

Сяргей ЧЫГРЫН

**Хочацца спадзявацца, што калі кнігу Уладзіміра Хільмановіча «Беларускае золата» прачытаюць «чорныя капальнікі», якія сёння знішчаюць курганныя магільнікі X–XVIII стагоддзяў, архітэктурныя помнікі, магілы, старыя сядзібы, шукаючы скарбаў, яны перастануць займацца вандалізмам.**




«Беларускае золата» Уладзіміра Хільмановіча — выданне даволі арыгінальнае, неабходнае і вельмі цікавае. І будзем спадзявацца, што гэта толькі першая кніга, а з цягам часу напішуцца новыя выданні пра беларускае золата, ахопліваючы шырока яшчэ і Усходнюю Беларусь.

Дзякуючы «Радыё Рацыя», кніга пабачыла свет у Беластоку, выдадзена на добрай якаснай паперы, са здымкамі аўтара да кожнага артыкула, з шыкоўным дызайнам Адама Паўлоўскага.

«Беларускае золата» складаецца са 120 невялікіх, але вельмі чытэльных артыкулаў-развагаў з гістарычнай і сучаснай афарбоўкай, фактамі і канкрэтнымі прыкладамі. Пісаліся яны аўтарам на працягу больш чым двух гадоў і друкаваліся на старонках «Нівы» і гучалі па «Радыё Рацыі».

Распачынаецца кніга артыкулам «Крыж Ефрасінні Полацкай» і заканчваецца «Плошчай 2010». У першым матэрыяле аўтар мяркуе, што «пакуль арыгінал крыжа Ефрасінні Полацкай не вернецца на Беларусь, ні даравання, ні любові, ні вольнасці нам не дачакацца... Калі крыж вернецца на радзіму, беларуская гісторыя пойдзе зусім іншым шляхам».

А ў «Плошчы 2010» гучыць надзея-працяг першага артыкула, што «пройдзе больш працяглы час, і дата 19.12.2010 стане ў адным шэрагу з 25 сакавіка, з 27 ліпеня, стане як вяха ў змаганні за нашу дзяржаўнасць, волю, праўду, справядлівасць, адвечнае права людзьмі звацца, стане асобай гістарычнай каштоўнасцю нашай краіны».

У артыкуле «Нясвіжская скарбонка» Уладзімір Хільмановіч прыгадвае і 12 апосталаў з золата і серабра, якія былі «вывезены ў французска-расійскую вайну 1812 года». Аўтар кажа, што «жыве і легенда пра тое, што галоўная скарбонка была дзесьці закапана ў ваколіцах». Краязнавец з Нясвіжа Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая (1935–2005) некалі пісала, што Дамінік Радзівіл, які ваяваў на баку Напалеона, аднойчы завітаў у Нясвіжскі замак і загадаў свайму эканому тэрмінова схаваць 12 апосталаў. Слуга выканаў загад князя, скарб хутка схаваў, а падземны ход, які вёў да 12 апосталаў, ён узарваў. Калі ў Нясвіж увайшлі рускія войскі пад кіраўніцтвам Паўла Чычагова, яны вельмі хацелі знайсці скарб з 12 апосталамі. Акупанты схапілі эканома і доўга яго каталі і дапытвалі, але ён нічога ім не сказаў. Рускія павесілі эканома ў двары замка. А праз пэўны час смяртэльна быў паранены і Дамінік Радзівіл. Так, двух чалавек, якія ведалі пра месцазнаходжанне тайніка, хутка не стала. А 12 залатых апосталаў ужо два стагоддзі ніхто не можа адшукаць, хаця пошукі вядуцца на розных узроўнях, ды вынікаў няма.

Відаць, час і 12 апосталаў, як і час крыжа Ефрасінні Полацкай, яшчэ да нас не завітаў, бо чужы пакуль час у Беларусі. І толькі тады ўсе нашы скарбы могуць вярнуцца, калі па-сапраўднаму будзе вольнай і незалежнай наша Бацькаўшчына. Уладзімір Хільмановіч шчыра ўспамінае і Клаўдзію Шышыгіну-Патоцкую ў іншым сваім артыкуле пра Нясвіж, які называецца «Сонечны Нясвіж».

Але не толькі гэтым золатам багата наша Айчына. Беларускае золата, як сцвярджае Уладзімір Хільмановіч, гэта і Кушляны Багушэвіча, і свет Янкі Маўра, і шлях Скарыны, і Завоссе Міцкевіча, і каласы Караткевіча, і дом Багдановіча, і Вязынка Купалы, і музей Луцкевіча, і калыханка Бураўкіна, і подзвіг Напалеона Орды, і байкі Крапівы, і Зэльва Геніюшаў, і Лябёдка Іваноўскіх, і феномен Касцюшкі, і сцежкі Ажэшкі, і вежа Гедыміна, і Станькава графа Чапскага, і паэма «Новая зямля».

З аўтарам шчыра можна пагадзіцца, што для беларусаў свая ўласная зямля заўсёды была багаццем, заможнасцю і незалежнасцю.

Наогул, кніга Уладзіміра Хільмановіча «Беларускае золата» — гэта своеасаблівы карысны падручнік для школьнікаў і навучэнцаў. Нават нічога не трэба больш выдумляць, а браць кнігу Хільмановіча — і 120 гадзін дзецям распавядаць пра беларускае золата. Распавядаць, дапаўняючы ілюстрацыямі пра тое, што знаходзіцца побач з намі, і пра што мы павінны ведаць, а таксама што і каго шанаваць. А калі са школьнікамі ці з навучэнцамі, ці са студэнтамі абысці ўсе гэтыя мясціны, пра якія згадвае ў сваёй кнізе аўтар, то можна смела спадзявацца, што маладыя асобы пасля школы ці іншай навучальнай установы, пра родную Беларусь будуць ведаць шмат. Таму падобныя выданні павінны выдавацца ў Беларусі вялікімі накладамі і бясплатна распаўсюджвацца па школах.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 24

Падпісана да друку 9. 01.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.